ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 42 (2568)
ПЯТНІЦА
15
кастрычніка 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

IV
Мінск-71



Прыз фестывалю ўручаецца стваральнікам «Усёй каралеўскай раці».



Іраклій Андронікаў—лаўрэат прэміі фестывалю.

Фота А. ЗУТЭЛЬМАНА і Ул. КРУКА.



Гасцей вітае старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні С. М. Пуцылеў.

ЗГАСЛІ БЛАКІТНЫЯ экраны ў фае акруговага Дома афіцэраў у Мінску. Цішыня. Нават цяжка ўявіць, што зусім нядаўна, дзесяць дзён запар, з раніцы дапазна тут фільм змяняўся фільмам, гучала музыка і ўсхваляваныя словы, ішлі гутаркі і спрэчкі—адбывалася спаборніцтва за права звацца лаўрэатам IV Усесаюзнага фестывалю тэлевізійных фільмаў.

Лаўрэаты аб'яўлены. Уручаны крышталёвыя вазы, з любоўю зробленыя рукамі беларускіх майстроў. Цяпер яны будуць ззяць на стэлажах тэлестудый Саратава і Харкава, Масквы і Тбілісі, нагадваючы пра бурлівыя, нялёгкія, хвалюючыя і радасныя дні фестывалю.

Не ўсе паехалі дадому з прызамі. Але ж не толькі ў іх сэнс. Не менш дарагая магчымасць прагледзець усё тое, што зроблена ў апошні час, сустрэцца са славутымі майстрамі, пачуць словы захаплення ці сяброўскую параду, нават заўвагу. Як усё гэта прыдасца дома!

Хоць на фестывалі ішло шмат гарачых спрэчак, бясспрэчным было адно: у конкурсе ўдзельнічала так многа добрых фільмаў, што даводзілася выбіраць не з горшых лепшыя, а з лепшых—найлепшыя.

Асабліва прыемна, што сярод іх аказаліся і беларускія стужкі: мастацкія «Уся каралеўская раць» і «Чырвоны агітатар Трафім Глушкоў» і дакументальная «Размова пра зямлю» (на старонках нашай газеты яны ўжо абмяркоўваліся).

Фестываль скончыўся, але спаборніцтва працягваецца. На нашых экранах будуць з'яўляцца ўсё новыя і новыя тэлефільмы, лепшыя з якіх праз два гады будуць прадстаўлены на чарговы фестываль. Хочацца пажадаць рэжысёрам, аператарам, мастакам, якія прысвяцілі сваю творчасць такому маладому і перспектыўнаму віду мастацтва, як тэлебачанне, ствараць фільмы яркія, паўнакроўныя, праўдзівыя, трымаць раўненне на лепшыя карціны IV Усесаюзнага...

Падрабязна пра вынікі фестывалю чытайце на 2-й старонцы.



Георгій Жжонаў — госць воінаў.

# ГЭТА СВЕТЛАЯ ВОСЕНЬ...

Міхась ВЫШЫНСКІ



КОЖНЫ РАЗ, калі неба задыхае вераснёвай прахаладай, калі суцішна зашасцяць дрэвы, а на падворках вучылішчаў і тэхнікумаў завіруе, загамоніць моладзь, мяне ахапляе трывога. Тады я, бывае, забудуся на свае штотыднёвыя клопаты — іду на Беламорскую вуліцу. Там — будаўнічае вучылішча, школа майго юнацтва, а паводдаль яго парк, вялікі, што лес.

Сядзіш дзе на пясчаным пагорачку ў парку, дыміш цыгарэтай і, здаецца, толькі і чуеш галасы ветру ды сінічак у верхаллі дрэў, шэпты апалага лісця ў траве; толькі і бачыш, як плывуць за горад воблакі, яшчэ па-летняму белыя, бачыш, як яны ў святле нізкага сонца барвова гараць зверху. «Вось так, чалавеча, — абзавецца ў думках, — яшчэ адзін жыццёвы круг замкнуўся...»

Гэтае падарожжа ў парк — як развітанне з летам, з пэўнай паласой быцця.

Потым я кірую ў вучылішча. Іду і ведаю, што нікога там з колішніх сяброў няма. Як птахі, яны разляцеліся па свеце, і сувязь з імі даўно абарвалася. Ды і сама «фэзэвушка» ўжо не тая. На месцы яе і старога саду вырас новы трохпавярховы корпус с прасторнымі класамі, па-сучаснаму абсталяванымі — адзін былы інтэрнат сумна шарэе за кляновымі прысадамі.

Але ўсё ж у вучылішчы мне ёсць з кім пагаварыць. Гэта — майстры, выкладчыкі. Сядзіш з імі на дворышчы пад старымі таполямі, слухаеш іх няспешную гаману, а сам не зводзіш вачэй з рамеснікаў-навабранцаў.

«Здравствуй, племя молодое,
незнакомое!..»

— ціхім рэхам пазвоньвае, разлягаецца ў душы.

Гэтай восенню, аднак, я не пайшоў у сваю «фэзэвушку». Парашыў перажыць вераснёўскае свята на другім канцы горада, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы металістаў, дзе працуе Пётр Іванавіч Якімаў — мой даўні знаёмы, выкладчык, майстар. Пацягнула туды вычытанае ў газетах паведамленне, што яму прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, павяла гордасць за ўсіх знаёмых і незнаёмых майстроў-выкладчыкаў тэхнічных школ, радасць, што нарэшце-такі заўважылі.

І вось я ў вучылішчы. Адчыняю дзверы ў настаўніцкую — гамана і смех на хвілінку пераціхаюць. Пётр Іванавіч адсоўвае ўбок класны журнал, працягвае мне руку, пасміхаецца:

— Ну, дачакаўся-такі госця-ляніўца.

Я пільна прыглядаюся да яго, нібы нанова знаёмлюся: які ж ты цяпер, Пётр Іванавіч? Не, высокая ўзнагарода нікольkі не змяніла цябе. Усё той жа: просты, свойскі, усмешлівы чалавек, адзін з тых людзей, якія лёгка губляюцца ў натоўпе, не любяць выстаўляць сябе напаказ.

Пётр Іванавіч шырока разводзіць рукамі:

— Знаёмся, от мае калегі...

Аглядаюся: здаўна знаёмы свет настаўніцкай. Адзін выкладчык перагортвае падручнік, другі запаўняе класны журнал, іншыя аб нечым спрачаюцца, а гэтыя двое...

— Пётр Адамавіч Кошаль і Валодзя Салодкіх, майстры, — ціха падказвае мне Якімаў.

...Тыя двое, цяжка ўзлокціўшыся на стол у закуце, даюць перцу цыганкаватаму, з дзікаватым позіркам хлапцу. Хлапец унурыста маўчыць і ўсё водзіць рукой па астрыжанай нагола галаве. Першы месяц заняткаў, а ўжо, накольнік, у нечым правініўся.

— Што тут у вас? — пытае Пётр Іванавіч.

— Ды вось новы маляр аб'явіўся, Адась Савей, — павяртаецца да нас Кошаль, — вымазаў чарнілам сцены, шаржы панамалёўваў на Уладзіміра Уладзіміравіча, — смех забруіўся ў вачах майстра.

Уладзімір Салодкіх сцепануў плячыма і пачырванеў, бы хлапчук.

Кошаль немаладога веку. У яго сівыя скроні, з куточкаў нечакана сініх вачэй разлягаюцца, як павуцінкі, маршчыны. Салодкіх — што юнак, белатвары і чарнабровы. Абое выхаванцы Пятра Іванавіча, у абодвух за плячыма завод, інстытут, пэўны педагагічны вопыт. Яны ўважна, запытальна пагладаюць на старога настаўніка: маўляў, што будзем рабіць з гэтым штукаром?

— Шаржы, кажаце? — строга пацерабіў сівыя вусікі Пётр Іванавіч. → І падобныя на... Так, — нечакана акругліў вочы і аж засвяціўся. — Дык ён жа мастак, знаходка для нас! От што зробім. Няхай забеліць гэтыя сцены, а потым аформіць школьную сценгазету. На першай калонцы ты, Адась, адмастачыш карыкатуру на сябе, кудлу-маляра. Уцяміў? А цяпер бяжы на ўрок...

АпануранЫ Адась Савей ураз нібы прачнуўся: здзіўлена ўзняў галаву, заплюскаў вейкамі. Але Пётр Іванавіч не жартаваў. Борздка адышоўся на сярэдзіну настаўніцкай і, ахоплены новым клопатам, узяўся складваць падручнікі, канспекты.

Гледзячы на яго, я зноў успомніў свайго колішняга майстра Леаніда Апанасавіча Кліменку. Як яны падобныя адзін на аднаго — нізкарослы, лысаваценькі Пётр Іванавіч і Леанід Апанасавіч, высачэзны з густой чупрынай мужчына-волат — духоўным падабенствам. Любое школьнае «чэпэ», вялікае ці малое, яны маглі ўладзіць нечакана тонка і проста — як бы да кожнай сітуацыі ў іх быў у запаску свой сакрэтны ключык. Падумалася, што і ў выпадку з Адасем Савеем Леанід Апанасавіч зрабіў бы так ці прыкладна так, як Пётр Іванавіч. А гэта ж Кліменка і пазнаёміў мяне з Пятром Іванавічам — пад той час я ўжо трэці ці чацвёрты год працаваў на мінскіх будоўлях.

Помніцца, пры першай сустрэчы Пётр Іванавіч неяк раптам і прыадкрыўся перада мной як чалавек. Майстры тады былі ў добрым настроі — сядзелі пад вячэрнімі таполямі ля «фэзэвушкі» і ўспаміналі пасляваенныя гады, вучняў тагачаснага набору. Успаміналі, як галаднавата жылося, але ў той жа час — як дружна, як весела. У такім калектыве і працавалася лёгка... Лёгка, пакуль у групу Якімава не трапіў хлапчук Максімка Акулёнак. Худзенькі, чарнявы, што вугалёк. Максімка ўсіх старані ўся, быў замкнёны, не па гадах сур'ёзны. «Што б гэта значыла?» — задумаўся Пётр Іванавіч. Падняў асабістую справу хлапчука — круглы сірата: бацька без вестак прапаў на граніцы ў першыя дні вайны, маці-падпольшчыцу замучылі фашысты. Сіратой у групе быў не адзін Максімка. Але другія неяк лягчэй перажывалі сваю горасць. А гэты... Што ж, прырода не штампуе ўсіх на адзін узор.

Не дзень і не два патраціўся Пётр Іванавіч, каб разварушыць, вывесці з душэўнага шоку хлапчука. Быццам бацька родны, глядзеў за ім. І ажыў, павесялеў Максімка. А Пётр Іванавіч і потым не перастаў аб ім клапаціцца — нават парашыў з жонкай забраць яго да сябе: няхай хлапчынка пажыве ў лепшых умовах.

Вечарамі, праглядаючы газеты, Пётр Іванавіч усё часцей задумваўся: а можа бацька Максімкі жывы? Чалавек жа не іголка. Пішуць, што бацькі знаходзяць сваіх дзяцей, дзеці — бацькоў. І напісаў у Маскву ў ваенны архіў. Адказ быў няўцешны: звестак ніякіх. Пётр Іванавіч не здаўся: яшчэ напісаў — цяпер ужо ў розныя месцы, установы. І нечакана, калі Якімавы былі надумалі ўсынавіць хлапчука, прыходзіць пісьмо ад Максімкавага бацькі. Аказваецца, выступаў па радыё аўтазаводскі хор, у якім спяваў Максімка, а суседзі старога Акулёнка ў Львове пачулі знаёмае прозвішча. Значыць — жывы! І паехаў Максімка ў Львоў, а Пётр Іванавіч назаўжды застаўся для яго другім бацькам...

Пётр Іванавіч вядзе мяне ў свой клас. Я ўмошчваюся на задняй парце, а выкладчык праходзіць да стала, разгортвае канспект. Тут ён неўпрыкмет перайначваецца: цішэе ў рухах, у слове. Позірк поўніцца нейкім унутраным святлом, голас цячэ мякка, душэўна. Ён становіцца падобны на мудрага дзядка з любімай казкі.

Схіліліся над партамі дзеці, шчыра пішуць у сшытак. Перада мною навічкі, будучыя слесары-рамонтнікі — трыццаць шэсць чалавек і ўсё хлапчукі. Скліканыя вераснем з розных мясцін Беларусі, яны яшчэ чужыя між сабой, сарамлівыя, асцярожныя, непадобныя адзін на аднаго і адзеннем, і абліччам, і, вядома ж, душамі, якія не-не, дый прыадкрыюцца праз мімалётны рух, выпадковае слова.

За высокімі вокнамі гудуць цэхі аўтамабільнага завода, паўз класныя сцены шарэюць станкі, паблісквапоць прыборы, і скрозь — табліцы, табліцы... Уяўляю, што перажываюць цяпер гэтыя хлапчукі. Тут свет зусім новага жыцця, ведаў, які ім трэба спазнаць. А ў цэнтры гэтага свету Пётр Іванавіч, кіраўнік групы. Ён павінен згуртаваць дзікаватых яшчэ навічкоў у адзін калектыў. Цяжка. Але старому майстру гэта не ў навіну. У школе ён з першага дня яе адкрыцця — як прыйшоў, дэмабілізаваўшыся з арміі, так і працуе на адным месцы. За дваццаць пяць гадоў вучылішча выпусціла 8 500 маладых спецыялістаў, і як не палова з іх — выхаванцы Пятра Іванавіча.

Звініць званок. Цяпер — самы вялікі перапынак. Мы падаёмся ў слясарны кабінет.

— То як яно, новае племя? — весела пытае Пётр Іванавіч і, не чакаючы адказу, адыходзіцца, сур'ёзнее, клопатна моршчыць лоб. — Цяжкавата яму прыходзіцца. Асабліва з жытлом... Што было ўчора? Вяртаюся я нацямку з вучылішча, ажно гляджу: у парку ля кінатэатра ўмошчваюцца на лаўцы на начлег двое мальцоў. Нутром адчуў, што гэта нашы. Падышоў да іх, распытаў. А яны: «Ды от гаспадыня з хаты выправіла, сказала, што сын з нявесткай вяртаюцца на жыццё да яе — трэба свабодны пакоік...» Што ж было рабіць? Пакорпаўся я ў папцы, знайшоў адрасы кватэраздатчыкаў, і пайшлі мы ўтрох па тых адрасах. Да поўначы хадзілі, але знайшлі. Мальцы аказаліся слаўныя: выдатна скончылі васьмігодку, спявалі ў калгасным хоры. Я сказаў ім: як запішацеся, салаўі, у заводскі хор, я вас у рабочы інтэрнат уладкую. Ёсць такое права...

Слухаю Пятра Іванавіча, пагладаю на яго: хоць і не ўпершыню, а ўсё ж дзіўна мне чуць, што рамеснікі жывуць не ў інтэрнаце, а на прыватных кватэрах, ходзяць не ў казённай форменай адзежы, а ў вольнай, што харчуюцца — хто як можа. Гадоў дзесяць назад усё было іначай, і школы тады называліся ТВу, ФЗН, РВу. Цяпер яны гучаць на адзін манер: ГПТВу. Кажу пра гэта Якімаву.

— Бачыш, вучняў нашых прыраўнялі ў нейкім сэнсе да студэнтаў. Парашылі, — шматзначна падымае ўгору палец, — што форма абясцэнілася ў вачах маладняка. Што ж, насіце сваю вопратку, жывіце са стыпендыі, вось вам дваццаць тры рублі і пяцьдзесят капеек. — Пётр Іванавіч спыняецца, здзіўлена пакручвае вус: — Ліха ведае, што з некаторай дзетварой робіцца! Прызнаюся табе, што і я, стары воўк, не заўсёды разумею яе. Ёй не да спадобы стала старая форма, падавай касцюмчыкі, туфлікі, шыкоўныя нейлонавыя сарочкі. А некалі мае гадаванцы душой аж заміралі, калі браліся за сваю парадную форму. Наваксуюць чаравікі, уставяць новы падкаўнерык, зацягнуць рэмень. Ды, урэшце, з адзеннем яшчэ можна мірыцца. А от з інтэрнатам... Некалі, цяжэйшым часам, мы яго мелі, а цяперака няма. Штука ўся ў тым, што раней гадавы набор дзетвары быў у тры разы меншы, чым сёння, інтэрнат пайшоў пад класы, а новы не будуецца.

— Без яго і дзецям нявыкрутка, і вам, выхавацелям... — устаўляю і я сваю думку.

— Дзе і што робіць хлопец — не ведаем. Сядзіш і чакаеш якога «чэпэ». Такі ўзрост. Яшчэ от стыпендыя... Жылі б усе пад адным дахам, харчаваліся б у сваёй сталоўцы, і былі б заўсёды пад'етыя. А так, палучыў іншы стыпендыю, а назаўтра ходзіць, падцяўшы жывот. «Дзе падзеў грошы?» — папытаеш. «А на музыку пайшлі».

— Калі на музыку, гэта паўбяды, — заўважаю я, згадаўшы колішніх зухаў-сяброў па «фэзэвушцы», — а калі на вінцо?..

— Здаралася, — падхоплівае Пётр Іванавіч. — Быў у мяне Віцька Аўчыннікаў. Даўгалыгі, лахматы, вечна спаў на ўроках. Падымеш яго, ветлівенька так запытаешся: «Можа вам, даражэнькі, падушачку прынесці? Што вы ноччу рабілі?» А ён з пахмелкі і ляпне: «У карты рэзаўся». Падам яму паперку: маўляў, садзіся, пішы, — свайго канспекта Аўчыннікаў ніколі не вёў, — а праз якую мінуту глядзіш — зноў спіць, і пахне ад яго, што ад піўнога бачка. Зноў падыму і выстаўляю на вуліцу, каб прасвяжыўся. Усе выкладчыкі адсту-



НА АТАВЕ.

Фотаэцюд І. АСКІРКІ.

піліся, махнулі на яго рукой. Я, прызнаюся, не губляў надзеі. Раз сабраўся і пайшоў да яго на кватэру. І што ж? Дазнаўся ад суседзяў, што гаспадар яго стары выпівоха і што ён псуе нашага хлопца. Тым жа днём знайшоў яму новую кватэру і прымусіў перасяліцца. Неадкладна напісаў бацькам: яны зашмат прысылалі сыну грошай. Кантакт з сям'ёй у такіх выпадках асабліва неабходны. Спагадзя прыехаў сам бацька, калгасны старшыня. Як пачуў усё — за галаву схапіўся: няўжо гэта яго Віцька? Што ўжо ён гаварыў з сынам, невядома. Але назаўтра заявіўся Віцька наш у вучылішча чысценькі, ціхманы, і з канспектам. Але ўсё гэта было толькі паловай справы. Уведаў я да чаго ляжыць Віцькава душа — да вучылішча, аказваецца, ён працаваў памочнікам калгаснага электрыка — і калі мае вучні ладзілі станок-буравічок, даручыў яму зманціраваць электраправодку. О, пабачыў бы ты гэтага хлопца ў той час! Дзе падзелася санлівасць і абыякавасць! Жыццё забурліла ў ім. Пасля даў другое заданне, трэцяе, і пайшло ўсё на лад. Цяпер ён чалавек, якога не надта саб'еш з жыццёвай дарогі: добры спецыяліст, сем'янін...

Між тым, канчаўся перапынак, і Пётр Іванавіч ухапіўся збіраць табліцы, слясарны інструмент — уперадзе быў урок практыкі.

— А от яшчэ быў у мяне адзін тыпус, — ужо на выхадзе з кабінета ўспомніў Пётр Іванавіч, — мудрэйшы за Віцьку Аўчыннікава. Лёнька Набокаў. Жулікаваты гарадскі ветрагон. Трапляў у міліцыю. На ўроках быў госцем. Гэтага хацелі ўжо выключыць, ды я з завучам заступіўся. Доўга валаводзіліся, але справіліся і з ім. Ты яго от зараз пабачыш...

Павярнулі калідорам налева, увайшлі ў майстэрню. Пётр Іванавіч разгарнуў плечы, пажвавеў: відаць было, што практычныя заняткі для яго — любоў асаблівая. Да таго ж тут ужо не навічкі, а знаёмы, абцёрты работай народ.

І я адчуў прыліў нейкай новай радасці. Быццам увайшоў у вучэбны клас сваёй «фэзэвушкі» і перада мной — усе сябры-равеснікі, муляры. Яны пахаджаюць у камбінезонах ля рабочых сталоў, шастаюць канспектамі, а на сталах усюды — ціскі, варштаты, паўз сталоў стаяць станкі: фрэзерны, такарны, свідравальны... Нібыта заводскі цэх.

Пётр Іванавіч закрывае журнал.

— Тэма ўрока ранейшая. Абпілоўванне металічных паверхняў. Мэта — выпілаваць ключ, сапраўдны рабочы ключ. — І майстар падымае цяжкі інструмент, што неяк нагадвае птушку з рашчэпленай дзюбай. — Ключ, як і молат, можна сказаць, сімвал працы рабочых, рабочага саюза. Так што пастарайцеся...

І вось схіліліся над ціскамі чубатыя галовы. Зарыпелі напільнікі, зашаргаталі тачыльныя брусы, ручныя дрэлі... Твары юных майстроў становяцца клопатныя, засяроджаныя.

Пётр Іванавіч прайшоўся паўз сталы.

— Вунь той, сінявокі, — хітнуў ён галавою, — і ёсць Лёнька Набокаў.

Я зірнуў: звычайны хлопец. Сярэдняга росту, плечукаваты, з пушком на губе, позірк сур'ёзны, спакойны. Бадзёра ходзіць у ягоных руках напільнік, пылком асыпаецца на ціскі сточанае жалеза. Упобачкі з Лёнькам шчыруе чарнявы шчуплы хлапчынка, мала не на дзве галавы ніжэйшы за Лёньку.

— Дзіцё яшчэ, — кажу я.

— Побач Сашка Лосік. Дужа на Максімку Акульчыка падобны, — ласкава кажа Пётр Іванавіч, — такі ж ціхманы, безадказны. З Лёнькам яны — дружбакі. Нічога дзіўнага: дужэйшы апякуе слабейшага — гэта здараецца часта. У Лёнькі добрае сэрца, — і нечакана падышоў да хлапчука. — Не рві, Лёнька, напільнікам, плаўна цягні. Дай яго сюды, вось так: ад сябе з прыціскам, назад — лягчэй. Што ў цябе з рукамі?

— Баляць, Пётр Іванавіч, — паціраe далоні хлопец, — учора на трэніроўцы перасіліўся.

— А-а, зноў баксіруеш. Ну... Працуй, — падае яму інструмент майстар і тут жа схіляецца над Лосікам. — Раўней, Саша, трымай напільнік, не закідвай насочак. Э-э, галубок, ды ён у цябе «засаліўся». Мяняй. Бяры от гэты.

— Ага, засаліўся, — вочкі ў Сашкі забегалі, як мышкі — ён успыхвае чырвоным макам і нервова хапае чысты напільнік.

— А ты, Іванька-старацель, — ужо звяртаецца да наступнага вучня майстар, — запілаваў свой ключ? Прыкладзі брусок, паглядзі, — Пётр Іванавіч бярэ кантрольную лінейку, праводзіць ёй па хвасце ключа, — бачыш, якія прасветы? Ідзі за новай загатоўкай, будзеш працаваць пасля заняткаў...

— Ой, — ціха ўскрыквае Сашка Лосік і рэзка тузае рукой. Напільнік са звонам падае на стол. На Сашкавых пальцах зачырванела кроў.

— Ах ты, бядак, — трывожна нахіляецца да яго Пётр Іванавіч. — Гаварыў жа, не заціскай напілак панізу пальцамі.

— З-забыўся, — разгублена шэпча Сашка.

— Ідзі з ім, Лёнька, да аптэчкі — перавяжы, — і адыходзіцца, зноў падыходзіць да аднаго вучня, да другога. Для кожнага ў яго сваё слова, свая парада.

Калі Пётр Іванавіч вяртаецца назад да Сашкі, у таго два вялікія пальцы на правай руцэ тоўста забінтаваны.

— Як цяпер будзеш пісаць? Пальцы, што дудышкі, — непакоіцца майстар.

— Прылаўчуся, — з бадзёрай упэўненасцю абзываецца Сашка. — У нас у вячэрняй адзін чалавек нават кульцяпкай піша.

— Во як. А хіба ўжо там пачаліся заняткі?

— Ужо, — адказвае за Сашку Лёнька, — учора хадзілі.

— Ясна, — Пётр Іванавіч кідае позірк на гадзіннік: час бяжыць...

Металёвы шумок у майстэрні аціхае. Стараста збірае гатовыя ключы, складвае іх у жалезную скрынку.

— Куды, Іванавіч, дзеяце гатовую прадукцыю? — пытаюся, калі мы выходзім з майстэрні.

— А гэта не праблема. Што прадаём, а што пакідаем для свайго музея. Зараз пабачыш.

Музей у вучылішчы! Не, такога ў нашай «фэзэвушцы» не было.

Пётр Іванавіч адчыняе дзверы, і вочы мае разбягаюцца...

У цэнтры пакоя на пастаменце ўзвышаецца мадэль аўтамабіля «МАЗ-216». Яна дзейнічае, як сапраўдная машына. Дэманстравалася на ВДНГ у Маскве, атрымала дванаццаць залатых медаляў.

А вось тачыльны станок. Яго пабудавалі Мікалай Паддубскі і Мікалай Чэрвеньскі. На рэспубліканскім конкурсе «Лепшы па прафесіі» хлопцы занялі другое месца. Яны скончылі вучылішча круглымі выдатнікамі і сталі слесарамі-інструментальшчыкамі чацвёртага разраду. Чацвёртага... Гэта — многае, калі ўлічыць, што звычайна выпускнікам прысвойваецца другі разрад.

А вось на паліцы штампы, дрэлі...

Аглядаеш каштоўнасці музея і ўвесь час думаеш пра старога майстра. Гэта ж амаль усё зроблена рукамі яго вучняў, яго выхаванцаў. Ён навучыў...

Вечарэе.

Пётр Іванавіч пачынае развітвацца: прыспеў час практычных заняткаў з адстаючымі, а заўтра шмат урокаў — яму трэба падрыхтавацца. Я ведаю: ён будзе працаваць да цёмнага.

...Я выходжу на вуліцу. Глуха гудуць заводскія цэхі, спяшаюцца да прахадной рабочыя. У асенніх снах заміраюць дрэвы, і лісце сыплецца з іх, нібы само па сабе. Верасень... У горадзе ён не такі, як у вёсцы. Тут ён непрыкметны. І ўсё ж... Я люблю яго, як найвялікшую песню...

У гэты час спадае з душы, як лісце з дрэў, усё лішняе, выпадковае, ты абнаўляешся і, нібы дрэва, чуеш, сябе на мяжы нечага новага.

Такі і сёлетні верасень. Ён светлы. Ён прынёс мне свята сустрэчы з харошым чалавекам і з маім колішнім рабочым світаннем.



**Н**АВЕЧНА ў памяці народнай подзвіг герояў Брэсцкай крэпасці. Нядаўна музей Брэсцкай крэпасці-героя наведаў пяцімільённы экскурсант — медыцынская сястра дзіцячай бальніцы з Пінска Ганна Аляксееўна Дземчанка.

На здымку — удзельніца Вялікай Айчыннай вайны А. А. Дземчанка ўскладае кветкі да руін цытадэлі.

Фота В. ГЕРМАНА. (БЕЛТА).

## З пошты ЛіМа

# НАРМАЛІЗАЦЫЯ ПАТРЭБНА

**У**ВАЖЛІВЫ чытач беларускай перыёдыкі лёгка заўважыць прыкметны разнабой у нашым друку. Рад выданняў свядома ігнаруе нормы, якія ўзаконены аўтарытэтнымі ўстановамі і адпаведнымі заканадаўчымі актамі (акадэмічная двухтомная «Граматыка беларускай мовы», у рэдагаванні якой прымаў самы актыўны ўдзел акадэмік К. К. Атраховіч (Крапіва), Пастанова Савета Міністраў БССР ад 11 мая 1957 года і выдадзеныя ў адпаведнасці з ёй «Правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» 1959 года, «Беларуска-рускі слоўнік» 1962 года, арфаграфічныя слоўнікі і інш.). У выніку ў друк трапляюць штучна і не заўсёды ўдала «зробленыя» словы (напрыклад НЯРАЗ, ПАЦЯРПЕЛЫ, СУМНІЎНЫ, ЗГУСАННЕ), формы роднага склону назоўнікаў розных тыпаў скланення штучна аб'ядноўваюцца ў адзін тып. Так з'яўляюцца формы УЛАСЦІВАСЦЯЎ, АСАБЛІВАСЦЯЎ, СОЛЯЎ, СТУПЕНЯЎ, НОРМАЎ, ЦЕЛАЎ, САЛДАТАЎ і шмат іншых.

Аднак асаблівую трывогу выклікае дзіўны разнабой ва ўжыванні прыназоўнікаў і спалучэнняў з імі. У асобных вельмі аўтарытэтных выданнях (БелСЭ, т. 1), напрыклад, цалкам знік стары і звычны беларускі прыназоўнік АБ у канструкцыях з месным склонам: ён ва ўсіх выпадках заменены прыназоўнікам ПРА. Такую практыку спрабуюць праводзіць услед за БелСЭ і некаторыя іншыя выданні. Атрымліваюцца спалучэнні ТЭОРЫЯ ПРА РОЛЮ ПРАЦЫ, ПРАПАНОВА ПРАГРЭСІЎНЫХ ПРАФСАЮЗАЎ ПРА СУМЕСНЫЯ ДЗЕЯННІ і г. д., якія наўрад ці зручныя для вымаўлення. Аднак справа не толькі ў гэтым. Вядома, што ў афіцыйным стылі, асабліва ў спалучэнні з абстрактнымі назоўнікамі ў ролі галоўнага слова або ў канструкцыях без галоўнага слова, прыназоўнік АБ з'яўляецца больш прыдатным і звычным сродкам (возьмем хаця б загалоўкі заканадаўчых актаў). Нашто ж адмаўляцца ад спрадвечнага беларускага граматычнага сродка і збядняць гэтым літаратурную мову?

У многіх выданнях («Полымя», «Маладосць», «Вячэрні Мінск» і інш.) у канструкцыях, якія маюць аднолькавае сінтаксічнае значэнне, можна сустрэць нічым не апраўданыя паралельныя формы. Так, у «Вячэрнім Мінску» ад 3 верасня 1971 года знаходзім і «ў 16 гадзін 41 мінуту па маскоўскім часе», «паведамляюць пра гэта па месцы работы», дзе з прыназоўнікам ПА ў абмежавальных канструкцыях ужыты формы меснага склону, і «работы па стварэнню і ўкараненню ў народную гаспадарку найбольш прагрэсіўных матэрыялаў», «заявы накіроўваць па адрасу», дзе ў такіх жа выразах знаходзім формы давальнага склона. І такі разнабой у друку працягваецца ўжо не першы год.

Нядаўна выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна надрукавала кнігу дацэнта П. П. Шубы «Прыназоўнік у беларускай мове» (Мінск, 1971). У гэтай кнізе на вялікім моўным матэрыяле, пачэрпнутым з розных стыляў беларускай літаратурнай мовы, фальклорных крыніц і народных гаворак, даецца падрабязны аналіз беларускай прыназоўнікавай сістэмы. Аб фактычным матэрыяле, якім карыстаўся аўтар, гавораць, да прыкладу, такія лічбы: аб'ём даследаваных тэкстаў — больш мільёна слоў (хоць вядома, што лінгвастатыстыка ўстаноўлівае аб'ём у 400 тысяч слоў як зусім дастатковы для многіх статыстычных вывадаў), асобныя прыназоўнікавыя канструкцыі ў вывучаных тэкстах паўтараліся больш чым па 20 тысяч разоў. Вядома, такое даследаванне павінна прыцягнуць увагу і мовазнаўцаў, і ўсіх тых, хто дбае пра культуру роднай мовы.

Але вось у часопісе «Полымя» (№ 6 за 1971 год) паявілася рэцэнзія А. Каўруса на гэту кнігу пад назвай «На нетрывалым грунце». Гэта рэцэнзія шмат у якіх месцах супярэчлівая. А. Каўрус як быццам дае станоўчую ацэнку кожнаму раздзелу кнігі паасобку і піша ў заключэнні, што «кніга П. Шубы патрэбная. Да яе будуць звяртацца пры далейшым вывучэнні службовых слоў у беларускай мове».

Разам з тым рэцэнзент робіць шмат дробязных заўваг, як быццам імкнучыся гэтымі дробязямі засланіць асноўную вартасць працы. Але з многімі заўвагамі цяжка пагадзіцца. Прывядзём прыклады.

Рэцэнзент гаворыць: «Не зважаючы на шырокае ўжыванне прыназоўніка ПАВОДЛЕ, сінанімічнага ў многіх значэннях прыназоўніку ПА, П. Шуба піша: «ПАВОДЛЕ наўрад ці можа з ім (прыназоўнікам ПА) канкурыраваць», і тлумачыць гэта далёка не лінгвістычным спосабам: «Канструкцыі з ПАВОДЛЕ ў беларускай мове сфармаваліся не без польскага ўплыву». А калі б і так? Тлумачыць прыдатнасць моўнага сродку трэба не так паходжаннем, як здольнасцю яго выконваць адпаведную функцыю» (стар. 232). Далей А. Каўрус піша, што ПАВОДЛЕ «вызначаецца большай абстрактнасцю, чым функцыянальна перагружаны прыназоўнік ПА».

Тут трэба разабрацца. Па-першае, ПАВОДЛЕ па частаце ўжывання займае адно з апошніх месц (21 на 100 тысяч прыназоўнікавых канструкцый, або прыблізна 0,02%, у той час як ПА — 4,22%, г. зн. у 210 разоў часцей), і гаварыць аб яго «шырокім ужыванні» ніяк нельга. Па-другое, ПАВОДЛЕ не «ў многіх значэннях» сінанімічны прыназоўніку ПА, а толькі ў адным — лімітатыўным. Па-трэцяе, чаму ж гэта «не лінгвістычны спосаб» — тлумачыць невысокую частотнасць тым, што службовы моўны сродак усведамляецца як запазычаны? А сам жа рэцэнзент змагаецца супраць канструкцый ПА з давальным іменна таму, што лічыць іх запазычанымі. Па-чацвёртае, прыназоўнік ПАВОДЛЕ ніяк не «вызначаецца большай абстрактнасцю», чым ПА. Якраз наадварот. ПАВОДЛЕ — значна больш канкрэтны, а ПА таму і абстрактны, што «функцыянальна перагружаны». Нарэшце, рэцэнзент няправільна прыводзіць цытату з кнігі П. Шубы. У кнізе напісана: «у беларускай мове сфарміраваліся не без польскага ўплыву» (гл. стар. 162). А. Каўрус жа піша: СФАРМАВАЛІСЯ. А розніца паміж словамі СФАРМАВАЦЦА і СФАРМІРАВАЦЦА выразна падкрэсліваецца ў слоўніках.

Далей. А. Каўрус піша; што «прыназоўнік ПРА не абмежаваны ні стылямі, ні кантэкстамі» (стар. 232). Аднак жа Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета не пачынаюцца з ПРА, а толькі з АБ. Можна спаслацца і на творы мастацкай літаратуры. Чытаем, напрыклад, у Аркадзя Куляшова: «Так змаўкае сям'я АБ памёршым ці сыне, ці браце, дарагое імя доўга не вымаўляецца ў хаце» («Сцяг брыгады»)...

Падводзячы вынік усяму сказанаму, хацелася б звярнуцца да нашых мовазнаўцаў з пажаданнем не адкладваць вырашэнне спрэчных пытанняў беларускага словаўжывання і формаўжывання, упарадкавання перадачы аднатыпных сінтаксічных канструкцый і іншых праблем культуры роднай мовы.

І. ГЕРМАНОВІЧ,
дацэнт БДУ.

## ВОДГУКІ, АДКАЗЫ

# «АДНА КРЫМІНАЛЬНАЯ СПРАВА»

Так называўся судовы нарыс, змешчаны ў «Літаратуры і мастацтве» 1 кастрычніка г. г. Як паведаміў у рэдакцыю намеснік старшыні Вярхоўнага суда БССР Л. Зайцаў, судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР адмяніла прыгавор народнага суда Фрунзенскага раёна Мінска ад 14 ліпеня 1971 года і вызначэнне Мінскага абласнога суда ад 17 жніўня 1971 года ў адносінах Хаўкіна. Справа накіравана на новы разгляд са стадыі судовага разбіральніцтва ў той жа суд, але ў іншым складзе суддзяў.

**У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

*Прыношу шчырую падзяку ўсім арганізацыям, чытачам і таварышам за сардэчныя віншаванні ў сувязі з маім шасцідзесяцігоддзем.*

Анатоль АСТРЭЙКА.

М. ЛАРЧАНКА,
прафесар.

# ЧАС ПАТРАБУЕ



Ніхто не можа адмаўляць таго, што беларускае літаратуразнаўства і літаратурная крытыка за апошнія гады дасягнулі значных поспехаў. Пра гэта сведчаць чатырохтомная гісторыя беларускай літаратуры, напісаная калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, калектыўныя акадэмічныя зборнікі даследаванняў пра беларускую савецкую прозу і паэзію, кнігі Дзмітрыя Бугаёва, Віктара Каваленкі, Рыгора Бярозкіна, Рыгора Шкрабы, Сцяпана Александровіча, Алега Лойкі, Адама Мальдзіса, Якава Герцовіча, Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі, Фёдара Куляшова, Ніла Гілевіча, Навума Перкіна, Сцяпана Майхровіча, Міхася Яроша, Вячаслава Рагойшы, Міхася Лазарука, Ісідара Баса, Генадзя Кісялёва, Міхася Стральцова і асобныя працы іншых нашых крытыкаў і літаратуразнаўцаў.

Аднак задаволіцца тым, што зроблена, мы не можам, бо яшчэ многае намі не здзейснена, многае яшчэ ў літаратурным працэсе чакае свайго вырашэння і патрабуе глыбокага пранікнення ў сутнасць бурнага развіцця не толькі беларускай, але ўсёй шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

Праблемы станаўлення і развіцця метаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры (ды і не толькі ў беларускай) у многіх аспектах лічы не вырашаны нашымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі. Яшчэ пануе ў нашай крытыцы схематычны падыход да метаду сацыялістычнага рэалізму, калі гэты метад савецкай літаратуры і мастацтва, яго творчыя прынцыпы разглядаюцца як сума пэўных, аднойчы ўстаноўленых правіл і не ўлічваецца тое галоўнае, што сацыялістычны рэалізм дынамічны і няспынна развіваецца, штодзённа ўзбагачаецца новымі якасцямі, новымі творчымі прынцыпамі, якія вынікаюць з развіцця самой савецкай літаратуры, з творчай індывідуальнасці нашага пісьменніка.

Заблытаным застаецца пытанне індывідуальнага творчага метаду пісьменніка. Ці можа існаваць індывідуальны творчы метад пісьменніка разам з асаблівасцямі стылю ў межах асноўнага метаду сацыялістычнага рэалізму? Некаторыя адказваюць на гэтае пытанне станоўча, аргументуючы сваю думку тым, што творчая індывідуальнасць мастака праяўляецца перш за ўсё ў самабытнасці яго мастацкага мыслення, паэтычнага бачання і адлюстравання жыцця, а таму зусім заканамерна, што яна павінна знаходзіць сваё выражэнне не толькі ў своеасаблівасці стылю, але і ў індывідуальных асаблівасцях творчага метаду пісьменніка. Значыць, можна гаварыць пра індывідуальны метад пісьменніка ў межах сацыялістычнага рэалізму як пра дыялектычнае праяўленне адзінкавага ў агульным.

Крытыкі і літаратуразнаўцы пакуль што спрачаюцца між сабой адносна існавання ў савецкай літаратуры творчага метаду рамантызму побач з існаваннем сацыялістычнага рэалізму.

Ідзе таксама спрэчка адносна таго, што сацыялістычная літаратура — з'ява больш шырокая, чым сацыялістычны рэалізм, што творчасць некаторых буйных майстроў слова (Ясенін, Пастарнак, Ахматава, Цвятаева, Прышвін, Сяргееў-Цэнскі і інш.), будучы сацыялістычнай па сваім змесце, не заключае ў сабе тых вызначальных якасцей і рыс, што характарызуюць сацыялістычны рэалізм.

Адсюль вынікае, што сацыялістычная літаратура, як з'ява больш шырокая і аб'ёмістая, уключае ў сябе апрача сацыялістычнага рэалізму і асобныя другарадныя мастацкія плыні, якія існуюць у сацыялістычнай літаратуры, дапаўняючы яе.

Калі праблема эстэтычных адносін літаратуры да жыцця і жыцця да літаратуры, праблема партыйнасці і народнасці вырашаюцца ў нашай крытыцы і літаратуразнаўстве больш-менш паспяхова, то такія пытанні, як адносіны нашай мастацкай літаратуры да чытача і чытача да нашых мастацкіх твораў, а таксама крытэрыі эстэтычнай ацэнкі з'яў мастацтва з пазіцый камуністычнага ідэалу належным чынам не даследаваны, глыбока не вывучаны.

Складаная праблема традыцый і наватарства, па якой неадназначна вялася дыскусія ў друку, патрабуе далейшай распрацоўкі. Нам яшчэ трэба паказаць на шырокім гісторыка-літаратурным фоне, як нашы пісьменнікі пераймаюць і развіваюць традыцыі класікі — традыцыі грамадзянскасці, рэалізму і народнасці, гуманізму і патрыятызму.

У сувязі з гэтым нам трэба больш сур'ёзна заняцца вывучэннем узаемасувязей і ўзаемадзеяння нацыянальных літаратур, у прыватнасці, беларускай літаратуры з літаратурамі Савецкага Саюза, а таксама з літаратурамі зарубежных краін, і ў першую чаргу, славянскіх краін сацыялістычнай садружнасці.

Калі нашы адносіны да прагрэсіўных пісьменнікаў свету ў справе вучобы ў іх з'яўляюцца яснымі, то не зусім ясным застаецца пытанне: як быць з таленавітымі прадстаўнікамі

---

*СЛОВА БЯРЭ ЧЫТАЧ*

# ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА ПРОСІЦЬ УВАГІ

У апошняе дзесяцігоддзе ў рэспубліцы выдадзена некалькі даследаванняў па беларускай дзіцячай літаратуры. Гэта — «Казка ў беларускай дзіцячай літаратуры» І. Разанава (1962), метадычны дапаможнік для студэнтаў-завочнікаў факультэтаў пачатковых класаў педінстытутаў «Беларуская дзіцячая літаратура» М. Яфімавай (1965), фундаментальная манаграфія Э. Гурэвіч «Беларуская дзіцячая літаратура» (1970)... І ўсё-такі мы з жалем канстатуем, што ў нас яшчэ мала прац, якія б грунтоўна, глыбока аналізавалі літаратуру для дзяцей, што дзіцячыя кніжкі разглядаюцца без уліку індывідуальных асаблівасцей таго ці іншага пісьменніка. Стала завядзёнкай непераборлівае захвальванне. У некаторых друкаваных водгуках на дзіцячыя кнігі не знаходзіш нават элементарных адзнак крытычнага аналізу.

Рэдка надараецца, што рэцэнзент сапраўды кваліфікавана разгледзіць дзіцячыя кнігі. У якасці добрага прыкладу хочацца назваць цікавыя крытычныя выступленні Р. Шкрабы з разглядам кніжак для дзяцей А. Васілевіч, А. Чарнышэвіча, В. Дайліды. Далёка не кожнай кніжцы, адрасаванай дзецям, шанцуе быць адрэцэнзаванай... нашай крытыкай, па сутнасці, спарадычна, ад выпадку да выпадку.

Мала ўвагі ўдзяляюць літаратуры для дзяцей і нашы часопісы. Гэта ж сорам, што за апошнія тры гады ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Неман» і «Народная асвета» надрукавана... ўсяго 5(!) артыкулаў, прысвечаных дзіцячай літаратуры.

Не часта рэцэнзуюцца і навінкі дзіцячай літаратуры. Зноў звернемся да статыстыкі. У 1969 годзе ў «Полымі» было надрукавана 6 рэцэнзій, у 1970 — 2, сёлета — 3. Пры гэтым палова крытычных водгукаў змешчана ў раздзеле «Кароткія рэцэнзіі».

«Неман» у 1969 годзе змясціў 2 рэцэнзіі, у 1970—6, а сёлета—пакуль што ніводнай...

Часопіс «Маладосць», здавалася б, павінен найбольш пільна сачыць за дзіцячай літаратурай. Але не. Дзіву даешся! За 1969 год на старонках часопіса з'явіліся ўсяго толькі 2 рэцэнзіі на дзіцячыя кнігі, за 1970—1(!), сёлета... пакуль што ніводнай.

А часопіс «Народная асвета» дык і зусім не цікавіцца новымі творамі дзіцячых пісьменнікаў...

22 рэцэнзіі за тры гады ў чатырох часопісах! Не густа...

На жаль, не так ужо часта можна сустрэць рэцэнзію на дзіцячую кніжку ў «Чырвонай змене» і нават у «Настаўніцкай газеце», а таксама ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», не гаворачы пра іншыя перыядычныя выданні, якія, быццам і забыліся, што існуе дзіцячая літаратура. Ды і тыя нямногія рэцэнзіі, што трапляюць у друк, як правіла, маюць анатацыйны характар. Вельмі часта рэцэнзаваннем дзіцячых кніжак займаюцца выпадковыя, часам непадрыхтаваныя аўтары. Пра кніжкі гаворыцца агульнымі, стандартнымі фразамі,

Трэба рабіць нейкія захады для прыцягнення ў крытыку дзіцячай літаратуры кадраў сапраўдных спецыялістаў, трэба заахвочваць крытычныя выступленні аб кнігах для дзяцей. Некалькі гадоў назад часопіс «Детская литература» правёў конкурс маладых крытыкаў на лепшыя артыкулы аб творах для дзяцей у літаратуры, кіно і тэатры. А чаму б і ў нашай рэспубліцы не правесці падобны конкурс?

У Маскве і Ленінградзе ёсць Дом дзіцячай кнігі выдавецтва «Детская литература», які штогод выпускае спецыяльныя зборнікі па пытаннях дзіцячай літаратуры і дзіцячага чытання. Было б вельмі добра, калі б у нашай рэспубліцы хаця б раз у два гады выходзіў літаратурна-крытычны і бібліяграфічны зборнік, прысвечаны праблемам дзіцячага чытання і беларускай дзіцячай літаратуры.

У мінулым дзесяцігоддзі цэнтральнае выдавецтва «Детская литература» выдала шмат кніг аб дзіцячай літаратуры, манаграфій аб творчасці буйнейшых дзіцячых пісьменнікаў. А хіба не заслугоўвае спецыяльных даследаванняў творчасць такіх прызнаных майстроў беларускай дзіцячай літаратуры, як А. Якімовіч, М. Лынькоў, Я. Брыль, К. Чорны, М. Танк, В. Вітка, В. Вольскі, У. Дубоўка, Э. Агняцвет, С. Шушкевіч? Пакуль што, здаецца, амаль ні пра каго з іх у нас няма нават больш-менш грунтоўных артыкулаў. Да гэтага часу ўсё яшчэ недастаткова асветлена творчасць для дзяцей Я. Купалы, Я. Коласа і З. Бядулі. Хаця пра творчасць Янкі Маўра ўжо ёсць асобныя працы (М. Барсток і М. Яфімавай), але ўсебаковага даследавання жыццёвага і творчага шляху нашага выдатнага дзіцячага пісьменніка ўсё яшчэ няма. Чакаюць распрацоўкі і навуковага вырашэння — на матэрыяле сучаснай беларускай літаратуры для дзяцей — многія важныя пытанні. Чакаюць дапамогі ад крытыкаў настаўнікі, выхавацелі, бібліятэкары, работнікі дзіцячых устаноў. У крытыкі дзіцячай літаратуры багата неадкладных і важных спраў.

Прызначэнне крытыкі дзіцячай літаратуры — не толькі прапагандаваць дзіцячую кнігу, дапамагаць дзіцячаму пісьменніку. Трэба весці бязлітасную, прынцыповую і доказную барацьбу з шэрасцю і халтурай, рамесніцтвам у дзіцячай літаратуры.

На жаль, у рэспубліканскіх выданнях ніколі не паяўляюцца гадавыя агляды паэзіі і прозы для дзяцей. Такія агляды давалі б магчымасць вызначыць вядучыя тэндэнцыі развіцця дзіцячай літаратуры. Трэба часцей друкаваць рэцэнзіі на навінкі, палемічныя артыкулы аб асноўных праблемах дзіцячага чытання і аб выхаванні. Апошняе асабліва важна для дзіцячых пісьменнікаў.

Кожны год у дзіцячую літаратуру прыходзяць новыя аўтары. Добра было б, калі б наш перыядычны друк і, у першую чаргу, штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» знаёміў чытачоў з маладымі пісьменнікамі, чый талент служыць дзецям.

І яшчэ. Я Герцовіч у дыскусійным артыкуле «Салаўя байкамі не кормяць...» піша аб тым, што неабходна зрабіць так, «каб пераважная большасць крытыкаў працавала ў выдавецтвах, у літаратурных аддзелах газет і часопісаў» («ЛІМ», 17 верасня г.г.). Гэта вельмі слушная заўвага. Трэба, каб літаратуразнаўчая, крытычная літаратура рэдагавалася спецыялістамі, а не выпадковымі людзьмі. Гэта, дарэчы, паставіла б і больш надзейны заслон перад халтурай. Прывяду адзін характэрны прыклад. Сёлета выдавецтва «Вышэйшая школа» выдала кнігу Я. Чарняўскай «Советская детская литература» — першы ў нашай рэспубліцы дапаможнік для студэнтаў педагагічных вну і філалагічных факультэтаў універсітэтаў. Першае, што кідаецца ў вочы: змест працы Я. Чарняўскай не адпавядае назве кнігі. У дапаможніку разглядаецца не ўся савецкая дзіцячая літаратура, а толькі руская. Але размова не пра назву. Звяртаеш увагу на тое, як многа ў кнізе штампаваных фраз, агульных мясцін, неабавязковых разважанняў. Але і гэта яшчэ паўбяды. Самае горшае тое, што рэдактары гэтай кнігі Н. Дружыніна і С. Левіна, рыхтуючы рукапіс да выдання, не заўважылі нямала мясцін, спісаных Я. Чарняўскай з даследаванняў вядомых рускіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў.

Крыніцы, якімі «карысталася» Я. Чарняўская, няцяжка было адшукаць, спецыялістам па дзіцячай літаратуры яны добра вядомы.

Возьмем адну з іх — дапаможнік для педагагічных інстытутаў і педвучылішчаў «Детская литература», выпушчаны «Учпедгизом» (Масква, 1960). Прачытаем, што гаворыцца тут на старонцы 226 пра пасляваенную творчасць Маршака:

«Пасляваенны перыяд творчасці Маршака характарызуецца тэматычнай жанравай разнастайнасцю: паэт паспяхова распрацоўвае для чытачоў малодшага школьнага ўзросту сур'ёзныя грамадска-палітычныя тэмы: пра сучаснае і мінулае нашай Радзімы («Быль — небыліца»), пра барацьбу за мір («Урок роднай мовы»), піша вершы пра працу школьніка — пра час, затрачаны з карысцю і праведзены марна («Што такое год?»)».

А цяпер, хто цікавіцца, хай перачытае адпаведнае месца ў кнізе Я. Чарняўскай: «Пасляваенная творчасць Маршака характарызуецца тэматычнай і жанравай разнастайнасцю. Паэт паспяхова... і г. д.» Усё **перапісана** даслоўна. Вар'іруюцца толькі знакі прыпынку.

Пра цыкл вершаў С. Маршака «Вясёлае падарожжа ад А да Я» ў кнізе Я. Чарняўскай напісана:

«Паралельна з паездкай па роднай краіне паэт робіць з чытачом не менш цікавае падарожжа ў свет літар і слоў...» (Стар. 178).

Але гэта зноў жа — з натарыяльнай дакладнасцю — з названай кнігі «Детская литература» (стар. 230).

Не знайшлося ў Я. Чарняўскай сваіх слоў і для размовы пра Маршака-перакладчыка. Тут ужо «выкарыстана» манаграфія Б. Галанава «С. Я. Маршак» (1957). Чытач можа ўзяць у рукі хоць кнігу Я. Чарняўскай, хоць манаграфію Б. Галанава, але адпаведна на старонках 185 (у Чарняўскай) і 181—182 (у Галанава) ён прачытае адно і тое ж:

«Школа рускага перакладу дала высокія ўзоры творчага засваення зарубежнай паэзіі. Дзякуючы натхнёнай працы Жукоўскага і Казлова, Пушкіна і Лермантава, Курачкіна і Міхайлава, Блока і Брусава, нараджаліся адпаведныя рускія вершы, якія шырокі чытач успрымаў як самабытныя...

Маршак-перакладчык заўсёды імкнецца стварыць адпаведныя рускія вершы, якія ўспрымаюцца як арыгінальныя творы, гучаць па-руску і ў той жа час застаюцца англійскімі, шатландскімі, нямецкімі, венгерскімі вершамі...»

«Не пашанцавала» ў кніжцы «Советская детская литература» і Чукоўскаму, Міхалкову, Маякоўскаму. Не здолела аўтар новага «дапаможніка» знайсці для характарыстыкі іх творчасці **сваіх** слоў.

Чытаем у Чарняўскай:

«Ствараючы для маленькіх дзяцей казкі, песенькі, вершы, К. Чукоўскі няўхільна прытрымліваўся сваіх «абавязковых правіл». (Стар. 125). «У сваіх п'есах Міхалкоў заўсёды ставіць хвалюючыя дзяцей пытанні маралі, піянерскага гонару, дружбы і таварыскасці. Найбольш удалым адказам драматурга на гэтыя пытанні была п'еса «Чырвоны гальштук»... і г. д. (Стар. 256).

У выдавецтве «Вышэйшая школа» палічылі, што гэта і напісана самой Я. Чарняўскай. Але... зноў жа, усё гэта з той самай «Детской литературы», якой суджана было стаць важкай падмогай для плагіяту...

Хочацца спадзявацца, што пра пытанні, закранутыя мною, яшчэ скажуць слова і крытыкі, і пісьменнікі, і чытачы. Хочацца таксама верыць, што дзіцячай літаратуры з кожным годам будзе надавацца ўсё больш і больш увагі.

Р. ЛІЦВІНАЎ,
аспірант Гомельскага універсітэта.

буржуазных плыняў у сучасных капіталістычных краінах? Думаецца, ігнараваць іх нельга. Ведучы непрымірымую барацьбу з элементамі рэакцыйнай ідэалогіі ў літаратурнай творчасці мадэрністаў, авангардыстаў, экзістэнцыялістаў і г. д., мы павінны ўдумліва адносіцца да іхніх мастацкіх набыткаў, да творчай практыкі.

Наватарства пісьменнікаў сацыялістычнага рэалізму не можа плённа развівацца без пошукаў новых сродкаў мастацкай выразнасці. Гэта заканамерна. Новы змест заўсёды шукае свайго праяўлення ў новай форме і «штурхае» пісьменніка-наватара да пошукаў такой формы, якая б арганічна адпавядала зместу. На жаль, некаторыя нашы крытыкі і літаратуразнаўцы ў сваіх работах мала звяртаюць увагі на **эстэтычную** каштоўнасць і змястоўнасць твора, разглядаюць тэматыку і праблематыку твораў па-за мастацкай сферай. А мастацкі твор тады з'яўляецца каштоўным і цікавым для чытача, калі ў ім па-майстэрску здзейснена гарманічнае зліццё важнай, грамадска-гуманістычнай ідэі з наватарскай формай, зразумелай чытачу.

У сувязі з гэтым — пра пытанне, пастаўленае ў анкеце «Літаратуры і мастацтва»: «Крытык піша цікава... Як вы гэта сабе ўяўляеце?» На маю думку, крытычныя выступленні выклікаюць цікавасць, захапляюць чытача, пісьменніка, паэта, калі ў іх ёсць у наяўнасці самастойная глыбокая і патрэбная думка, важная грамадска-эстэтычная ідэя, якая звязана з ідэяй мастацкага твора і памагае чытачу і пісьменніку разабрацца як у дадатных, так і адмоўных баках верша, рамана, аповесці, што падлягаюць аб'ектыўнаму навуковаму даследаванню.

На маю думку, агульным істотным недахопам нашай крытыкі і літаратуразнаўства з'яўляецца пэўны эмпірызм, недастатковае навукова-тэарэтычнае асэнсаванне літаратурных фактаў; нестае і паглыблення ў творчую індывідуальнасць пісьменніка, у яго творчы метад, у мастацкую лабараторыю. Не хапае яшчэ нам баявітасці ў барацьбе з буржуазнай ідэалогіяй на літаратурным фронце, навуковай аб'ектыўнасці, патрабавальнасці.

Вельмі правільна сказана ў Справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXIV з'езду нашай партыі, што поспехі савецкай літаратуры і мастацтва былі б яшчэ больш значнымі, а недахопы хутчэй ліквідоўваліся б, калі б наша літаратурна-мастацкая крытыка больш актыўна праводзіла лінію партыі, выступала з большай прынцыповасцю, спалучаючы патрабавальнасць з тактоўнасцю, з беражлівымі адносінамі да мастацкіх твораў.

Нашым крытыкам і літаратуразнаўцам гэта трэба памятаць, ніколі не забываць, кожны дзень думаць пра тое, як трэба нам у новых умовах, калі савецкі народ з вялікім энтузіязмам ажыццяўляе рашэнні XXIV з'езда нашай партыі, працаваць, каб патрабаванне партыі да літаратурна-мастацкай крытыкі як мага хутчэй здзейсніць, пазбавіцца недахопаў, узняць крытыку і літаратуразнаўства на больш высокі ўзровень.

# ТОЛЬКІ РЭПЛІКА

Сярод многіх і розных якасцяў літаратурнага крытыка — адна з найважных: умельства бачыць з'явы культуры ў іх уласным святле і маштабе, у іх праўдзівым значэнні. Здатнасць не паддавацца спакусе мітусліва-павярхоўных збліжэнняў і аналогій, якія нічога іншага засведчыць не могуць, апроч нашага борздага на скараспелыя вывады лёгкаважкага дылетанцтва.

Чытаеш, напрыклад, крытычны агляд творчасці пачаткоўцаў — членаў літаб'яднання пры раённай газеце, і раптам са здзіўленнем дазнаешся, што вершы аднаго гурткоўца нагадалі аўтару артыкула, прафесійнаму літаратару, творы... Цютчава.

Крытык прыводзіць радкі маладога паэта... Божа пры чым тут Цютчаў, навошта ўвогуле трывожыць цені вялікіх там, дзе гаворка павінна ісці пра элементарныя навыкі рамяства, і толькі?..

Цытую дыскусійны артыкул Міколы Арочкі «Як і сама паэзія...»:

«Сёння, на жаль, нельга ўжо адчуваць прыроду так, як адчуваў і пісаў пра яе Фет ці нават Блок. Наіўна-радужнае, праставатае захапленне (увесь сэнс якога зводзіцца толькі да воклічу «ах!») гучыць ужо прымітыўным дысанансам на фоне трывожна-балючых твораў А. Пысіна, А. Русецкага, Р. Барадуліна, Ю. Свіркі. Бо творы гэтыя не проста аб прыродзе, а пра чалавека ў прыродзе, аб іх драматычных узаемастасунках, аб чалавеку з цяжкім вопытам паходаў, блакад, перажытых трагедый...»

Унікальнае, скажам прама, выказванне; нават не ведаеш, з якога боку да яго падступіцца.

Пачну з таго, што не зусім ясна разумею, чаму «на жаль, нельга ўжо адчуваць прыроду», як Фет ці Блок. Аб чым тут, уласна кажучы, шкадаваць? Аб «наіўна-радужным, праставатым захапленні», «увесь сэнс якога зводзіцца» да прымітыўнага воклічу? Развеялася гэта захапленне, аджыло, сышло са сцэны — туды яму і дарога! Аб чым шкадаваць?.. Тут у М. Арочкі нейкая лагічная няўзгодненасць.

Толькі вось пытанне: ці такім ужо «прымітыўным дысанансам» выглядае «наіўна-радужнае, праставатае захапленне» Фета і Блока на фоне паэтаў, названых М Арочкам?

**І што канкрэтна меў на ўвазе крытык, сцвярджаючы, быццам успрыманне прыроды Фета было праставатым і зводзілася да воклічу «ах!»? Можа, вось гэта:**

Но верь весне. Ее промчится гений,  
Опять теплом и жизнию дыша.  
Для ясных дней, для новых  
откровений  
Переболит скорбящая душа.

**Альбо:**

Здравствуй!  
На половинном пути  
К вечности, здравствуй, Нептун!  
Над собою  
Слышишь ли шумные крылья  
и ветер,  
Спертый нагрудными сизыми  
перьями? Здравствуй!

Адчуваю, што, калі задаваць пытанні М. Арочку, то ім канца не будзе. Скажу адно: лічыць, быццам творы Фета «проста аб прыродзе», а творы Свіркі «пра чалавека ў прыродзе», і таму першыя выглядаюць прымітывам на фоне другіх, значыць страціць усякае ўяўленне аб рэальных мастацкіх каштоўнасцях і праявіць такую да іх глухату, якую і не заўсёды даруеш колькі-небудзь уважліваму чытачу паэзіі, тым больш крытыку і яшчэ такому цікаваму крытыку паэзіі, якім паказаў сябе Мікола Арочка.

Мала Арочку Фета, выдатнага лірыка, якому сапраўды бракавала **гістарычнага** мыслення, але творы якога жывуць і сёння дзякуючы ўмельству аўтара з цудоўнай свежасцю маральнага пачуцця «ачалавечыць» прыродны свет (вершы Фета «ўвайшлі ў рускую прыроду», піша С. Маршак), — крытык «турбуе» яшчэ і Блока, паэта, які ўмеў напоўніць адчуваннем гісторыі кожнае сваё перажыванне аж да самага «прыватнага».

І проста не верыцца, што якраз пра Блока, аўтара «Вольных думак», «На полі Куліковым», «Расіі», «Асенняга дня», «Коршуна» і многіх іншых вялікіх твораў, дзе прырода — неад'емная частка гістарычнага «пейзажу» радзімы, — што іменна пра Блока напісана чорным па белым: «праставатае захапленне «прыродай» з пераважнай слабасцю да розных выклічнікаў (дарэчы, і яны не процілаказаны паэзіі — былі б на месцы).

Праўда, Блок (не кажучы ўжо пра Фета) не зведаў «цяжкога вопыту паходаў, блакад». І Пушкін не зведаў. І Багдановіч. Але ці значыць гэта, што таленавітыя Пысін, Русецкі, альбо Барадулін, якія перажылі вайну, тым самым, аўтаматычным, так сказаць, шляхам узносяцца над Блокам ці Багдановічам? Але ж акрамя паняцця «вопыт» і «біяграфія» ёсць яшчэ і паняцце «генія», зразуметага як агромністая сваёй інтэнсіўнасцю, глыбінёй і страснасцю **самастойная духоўная** работа сэрца і розуму, цалкам скіраваная на самыя неадкладныя, «трывожна-балючыя» турботы людзей і свету, народа і чалавецтва.

Бедныя нашы паэты, колькі мы іх павучаем, папярэджваем, выхоўваем! А тут яшчэ Мікола Арочка са сваёй парадай-перасцярогай: глядзіце, не апускайцеся да Блока, да ўзроўню яго «праставатага захаплення» і «прымітыўнага дысанансу».

Не «апускаюцца». Не часта, не заўсёды «апускаюцца». І тут ужо сапраўды скажам—«на жаль».

**Рыгор БЯРОЗКІН.**



БЭРЫ СЛУЦКІЯ.

Фота Ул. КРУКА.

## *БУДЗЕМ ЗНАЁМЫ:*



## Людміла ПЯТРУЛЬ

*Сёлета Людміла Пятруль скончыла тэатральна-мастацкі інстытут. Працуе мастаком на Баранавіцкім баваўняным камбінаце.*

*З прыемнасцю прадстаўляем яе нашым чытачам — з першай спробай пяра.*

### ПЕСНЯ

Звозяць сена ў канцы лета,  
Гумны набіваюць,  
Аж у прыцемках кабеты  
На вазы сядаюць.  
Рукі звязваюць вузламі  
На каленях вострых,  
Прыпадаюць галасамі  
Да альтоў калёсных:

Запрагайма, запрагайма  
Коні вараныя,  
Даганяйма, даганяйма  
Леты маладыя.

Месяц рогам зачапіўся  
За край небасхілу,  
У рацэ вады напіўся  
І паплыў да млыну.  
Там на крылах пераскочыў  
На пярыну зорну.  
Лёс жаночы днём і ноччу  
Мелюць часу жорны:

Гналі, гналі і дагналі  
Ў Варшаве на мосце.  
Вярніцеся, мае леты,  
Хоць да мяне ў госці.

З-пад хусток сівыя косы  
Сцежкамі старымі  
Палягаюць на пакосы —  
Туманы за імі.  
Ёсць і голас маёй бабкі  
У познім суквецці,  
Яшчэ чысты, ды ўжо слабы,  
Як за кустам вецер:

Не вернецца, не гукайце,  
Бо няма да кога.  
Трэба было шанаваці  
Як здароўя свойга.

●

Я ў маліннік хаваюся  
ад навальніцы,  
Каб пярун не знайшоў,  
праязджаючы  
На срэбранай калясніцы.  
А маліна мядовая мажа  
Вочы і вусны мокрыя,  
Пакуль пярун  
залатымі бляшкамі  
Грыміць над зялёнымі  
кроквамі.

На руках і нагах  
Аголеных  
Сляды шыпоў малінавага  
колеру,

Калі яны яшчэ загояцца!  
А ў маліннік заглядвае  
Сонца.

### ЖАРАБЯТКА

Каля Нёмана луг роўны,  
як далоні,  
А на ім пасуцца спутаныя коні,  
А на ім пастух куляецца  
цыбаты,  
Лёгка лётае па лузе жарабятка,  
Ды адна кабылка з поўным  
вымем  
Выбрыквае ножкамі рабымі.  
Жарабятка ж вараное, вараное  
Усё лётае па лузе, як дурное.  
Над яго, над аксамітнымі  
слядамі  
Трасе лета залатымі павадамі.  
Жарабятка вараное, супыніся,  
Маёй хвалі халадку хадзі  
напіся.  
Жарабятка, не ўцякай ад мяне  
ў травы,—  
Стогне Нёман яму ўслед  
павольны, млявы.

# аўсяны

Леанід КАЛОДЗЕЖНЫ

АПАВЯДАННЕ





Мал. А. САПЕТКІ.

—Не на жартачкі дождж разышоўся—цярэбіць і цярэбіць.

— Затое вясной раз пакрапіла.

— Во і навука. Ракеты прыдумалі, у космас лятаюць. Што б машыну такую зрабіць, каб хмарамі ўпраўляла. Трэба дождж—націснуў кнопку: калі ласка. Лішні пайшоў ці не ў час сабраўся — адвёў яго.

— Дабяруцца і да гэтага. Мусіць, не так проста пакуль.

Аблакаціўшыся на стол, даяркі расселіся перад акном, з якога кожны вечар выглядаюць статак. Сёння яны пазбягаліся раней. Думалася — золь, дык прыгоняць кароў загадзя. Ажно — не, няма.

— Не відаць нашага Спірыдона, — пазяхнула Анюта. — Строгі. Вытрымлівае распарадак.

— Гэта не Галень табе. У Галеня даўно б раўла жывёла ў хлявах. Прыпячэ троху ці замурзаецца неба — прэ скарэй дамоў, — азвалася Марына.

Па-мужчынску спаважна яна дастала з кішэні кофты пачак «Северу», закурыла. Сіні дым колцамі паплыў угару, пацягнуўся на сярэдзіну пакоя, дзе вісела воблака яшчэ ад ранейшай папяросы.

— Смаліш ты, дзеўка, мудрэй за Ананню. Той адну канчае — другую прыпальвае,— змеціла Анюта.

— Чым дзіцё ні цешылася б, абы не плакала.

— Забава забаве — розніца. Баба ты — не гожа. Колькі можна глытаць гэтую атруту?

— А табе які клопат?—насупіла Марына бровы.

— Мне ўсё роўна — куры. Іншым коліць вочы.

— Каму?

— Ёсць людзі.

— Чхала я на іх! Няхай не глядзяць.

Курыць Марына даўно, аж ад вайны. Да гэтага занятку яна прыахвоцілася ў Нямеччыне, куды маладзенькай упяклі яе гітлераўскія спужкі. Парабкавала дзяўчына там у аднаго рыжага баўэра. Марыну напачатку ён прыставіў да такіх жа, як сам, рыжых кароў. Затым, калі з'ехала на лячэнне яго хваравітая і сухая, як шчэпка, фраў, зрабіў і пакаёўкай. Яшчэ і пры жонцы весялун-баўэр не даваў дзяўчыне праходу. Цяпер жа проста ачмурэў — чапляўся на кожным кроку. А нешта, як не адбівалася тая, абграбастаў яе, зацягнуў у апачывальню і ссільнічаў. У вёску, наўздзіў сяльчан, Марына вярнулася не адна—на руцэ падгопваў рыжанькі гадаванец Іванка. Другім, не меншым цудам, якое таксама кінулася ў вочы і ўразіла людзей, было якраз тое, што яна — курыць.

Не сказаць, каб Анюціна заўвага дужа кранула Марыну. Але не праляцела яна і бясследна, бо неяк адразу Марына сцялася, скамянела. Паніклі, адчуваючы сябе вінаватымі перад ёй, і астатнія.

Праз акно, што пазірала на вёску, скрозь праглядаўся шырокі, быццам пляц, брыгадны двор, акружаны пабудовамі: прама аборы цясніліся, злева, пад шыферным дахам, цямнелі гаражы, справа — свірны. Сярод двара, бліжэй да абор, стаяла брыгадзірская, дзе праводзіліся разнарадкі. Вечарамі, скончыўшы работу, сюды ішлі мужчыны, каб пасядзець кампаніяй за даўжэзным, ад сцяны да сцяны, сталом альбо — пры цёплым надвор'і— прыладкавацца пад брыгадзірскай на лаўцы і пагаманіць, пасмяяцца, пакурыць ці проста памаўчаць, паслухаць іншых.

У брыгадзірскую, было бачна, бежкам спяшалі яе сталыя наведнікі. Сцякаліся па адным, па двое. Ад гаражоў цэлым гуртам прамаршыравалі камбайнёры—яны ад самага абеду, ледзь задажджыла, скончылі работу і, прыгнаўшы камбайны, корпаліся дасюль ля іх. Першым, што атаман, мажны, вышэйшы за ўсіх на галаву, размашыста, але няўпэўнена, відаць, ужо разгавеўся, праставаў Хвёдар Гляк.

— Унь, Поля, залётка твой пайшоў,—тыцнула пальцам у шыбу Марына.

— Хто? Што ты вярзеш!—падхапілася і пачырванела Паліна, якая ўвесь час маўчала.

— Гляк, хто ж.

— Які ён мой?

— Не прыбядняйся. Хвёдар даўно з цябе вачэй не спускае.

— А я пры чым? Яму ж не забароніш глядзець.

— Ты не зводнічай, Марына, і не сватай замужнюю жанчыну за нейкага валацугу. У Полі свой, законны чалавек ёсць,—ускінулася Анюта. Ёй не так хацелася заступіцца за Паліну, як за свайго стрыечнага брата Рамана.

— Раман? — бліснулі Марыніны вочы.

— Вядома—не чорт лысы.

— Дык з Рамана пясок даўно сыплецца. Куды яму да Полі. Палюбуйся—яна ж як ружа!

— Які ён ёсць, а з Хвёдарам не зраўняеш.

— Канечне. Бот лапцю не пара.

— Раман — хвігура ў калгасе: бухгалтар!

— Хіба што бухгалтар. Толькі радасць ад гэтага якая? За ўсё жыццё нават на дзіцёнка духу не сабраў. Ходзіць вунь Поля ні дзеўкай, ні бабай. Ты даўно б, каб твой Андрэй мух лавіў, знайшла б другога,—пад дружны смяшок даярак адрэзала Марына.

— Але на Хвёдара не пакваплілася б.

— Чаму? Няўжо Хвёдар благі мужчына? Якраз не адпіхнула б.

— П'яніца горкі твой Хвёдар. Кожненькі дзень пад градусамі,—жадаючы пакінуць у спакоі Рамана, вывернулася Анюта.—На ліха такі каму. Быў бы харошы, не выгнала б жонка, не стала б разводзіцца. Што сабака пабіты, прыджгаў ён са сваёй Калымы.

— Не ведаеш—не плявузгай,—змянілася ў твары Марына. — Не жонка пакінула, а ён жонку. Сам расказваў рыжаму майму. І пісьмы паказваў ад яе. Упрошвала тая, каб даравў ёй і дазволіў прыехаць. Але Хвёдар—ні блізка. Куды там. Дапякла яна яму. Добрая цаца была. Знюхалася з адным начальнічкам. Мужык з хаты і ў рэйс,—шафёрам працаваў на Калыме, а палюбоўнік—на парог. Аднойчы, ці то машына сапсавалася, ці то што, Хвёдар заявіўся не ў час. Саўгель дамоў і—накрыў галубкоў. Не біў ён, не жырыў яе. Сабраў свае манаткі—і аухфідэрзэй! Ну, і запіў.

— Было б з чаго,—чмыхнула Анюта.—Падумаеш—жонка пачмурыла трохі, дык з-за гэтага ў гарэлцы мокнуць.

— Прыгожа, міленькая, спяваеш!—пыхнула Марына дымам.—А ўспомні вайну і свайго палоннага татарына, якога ўзяла да сябе. Не забылася? Успомні, як вярнуўся з Берліна твой Андрэй і, даведаўшыся пра ўсё, адышоў да сваіх бацькоў. Чаго ты бегала да Цыгановай сажалкі тапіцца? Горка табе стала?

Далей Анюта не слухала ўжо. Ускочыла, затараторыла, што заведзеная.

— Статак гоняць!—як збавенне, прыспеў нечы голас.

— Штурхаючыся, навыперадкі, абы не чуць крыку, даяркі сыпанулі з дзяжуркі.

Апошняй выходзіла Анюта.

— Будзе і заўтра дождж,—жадаючы перапыніць яе, заўважыла Паліна.—Чорная карова ўперадзе.

Сваячаніца нават і вухам не павяла на гэта; як зачала, так і цягнула—крычала, на чым свет, кляла Марыну, збіраючыся, пэўна, дапячы ёй і на ўцеху сабе ўзвінціць яе. Аднак Марына маўчала. Адно пасмейвалася.

Астыла Анюта, хоць і не сунялася зусім,—голас усё не заціхаў. Праўда, Марыну больш не чапала, лютавала ўжо на кароў, якія то не так стаялі, то не гэтак паварочваліся.

Ад прыкрасці ў Паліны замуціла ў грудзях. «Слаўная сяброўачка, — варухнулася крыўда на Марыну.— Такую кашу заварыла. Для чаго, спытаць, Гляка прыклала і на хваробу чапала Анюту? Наламала дроў. Цаляла па кані, а папала па аглоблях. Цяпер хопіць звону».

Не цямячы, што робіць, Паліна прыкладвала апарат пад маладзенькую Рабіну. Але тут жа зняла і падсела даіць рукамі.

Забыўшыся на ўсё, Паліна не прыкмеціла, як даяркі пасканчалі работу і паразбягаліся па адной з фермы.

Падышла Марына.

— Скора ты?—спытала яна, выбіраючы са жмутка гарохавых ніцін, якіх нацягала з адкошанай адвячоркам для кароў зеляніны, тонкія стручкі.

— Не.

— Варушыся,—пачакаю.

— Ідзі. Я затрымаюся.

Паліна не жадала ні з кім заставацца. Ёй хацелася пабыць адной.—Можа пакрыўдзілася?—дапытвалася сяброўка.

— Ат. Хто цябе не ведае.

— Чаго ж надзьмулася, як мыш на крупы?

— Так. Ці мала чаго.

Марына шпурнула ў яслі абшчыканыя гарохавіны і дастала папяросу.

— Даруй, калі што. Не было ў мяне думкі рабіць табе зла. Быццам чорт пацягнуў за язык. Анюту карціла падкалоць. Не люблю я яе, жмінду. І Рамана не люблю. На адну калодку яны роблены. Нікога для іх няма харошага. Толькі сябе людзьмі лічаць. Астатніх гатовы ў лыжцы вады ператаліць. Колькі твой мужычок, Раманька, табе насаліў? Ён жыццё тваё скалечыў. Не паглядзеў на цябе па-чалавечы, слова ласкавага не сказаў. А ты церпіш, мірышся.

— Не сіліцца ж мне.

— Плюнь на яго.

— Лёгка сказаць.

— Ну і дурніца! Я даўно на зло яму загуляла б з Хвёдарам.

— Што ты! На ліха я каму.

— Не загаворвай зубы. Хвёдар уцюрыўся ў цябе, як Гальнёва Мурза ў клёцкі.

Паліна ўспыхнула, зардзелася чырванню.

— Ох, Марына, Марына! Дзе твой сорам.

— Быў, ды свінні з'елі!—павярнулася сяброўка.

Паліна ўправілася з работай і, не затрымліваючыся больш, заспяшалася дамоў.

Непагадзь не ўляглася. Праўда, дождж паспакайнеў—лупцаваў не такі часты. Затое ўсхадзіўся вецер. «Разгоніць можа». Паліна глянула на неба, але не заўважыла ніводнай зорачкі, ніводнага светлага лапічка: ад краю да краю хмары шчыльна затулілі яго. «Хоць наўрад—не падобна». На самы лоб нацягнула яна хустку, узняла ў жакетцы каўнерык і шпарка пацобала па лужах.

Ля кузні пад вярбой нехта стаяў. Здалёк можна было б і не заўважыць яго, калі б не іскры ад папяросы.

«Няўжо Марына? Чаго яна?»

Праз некалькі крокаў убачыла, што постаць не Марыніна — вышэйшая. «Хто б гэта?» Тут жа мільгнула здагадка і ёкнула сэрца—«Гляк!».

Паліна збочыла, збіраючыся абмінуць.

— Доўга ж ты,—у шырокай, як балахон, вайсковай накідцы выйшаў наперад Хвёдар.

— А табе што?

— Правесці хацеў цябе.

— Абыдуся без праважатых.

Жанчына паддала хады.

— Чакай. Куды так разагналася?

— Дамоў.

— Пойдзем разам.

Патрапляючы ў крок, Хвёдар прыстроіўся побач.

— Нейкая ты калючая, Полечка, сёння.

— Як заўсёды.

— Не скажы. Раней ласкавейшай была.

— Гледзячы з кім.

— Са мной.

— Табе здалося. Чаго мне перад табой маляваццa?

— Хоць бы за прыхільнасць маю.

— Я не ганяюся за ёй. Можаш не растрачвацца дарэмна.

Хвёдар зрабіў яшчэ некалькі закідаў. І зноў—водгук той жа. Хутка красамоўства і смеласць пакінулі яго. Апусціўшы галаву, ён моўчкі тупаў у сваіх вялізных ботах. Паліна ўжо зашкадавала, што крута абышлася з ім. Для яе, прызнацца, усё ж прыемна было слухаць няхітрыя словы заляцання. Ёй ніхто не гаварыў іх, а калі і гаварыў, дык даўно—не памятае.

Вецер на нейкі час аслаб. З вуліцы данеслася гагатанне гусей, на якіх, відаць, забыліся гаспадары і не ўпусцілі ў хлеў. Было чуваць, як у некага жаласліва, просячыся ў сухое, пад дажджом мэнчыў сабака.

— Хадзі да мяне пад крыло,—расхінуў Хвёдар плашч.

— Не цукерка — не растану.

— Давай, давай,—бы дзіцё, схапіў ён за руку.

Паліна не вельмі ўпіралася—паддалася яго волі.

— Даўно б так. Навошта ж мокнуць.

Цяжкая Хвёдарава рука легла на плячо, потым спаўзла ніжэй і моцна абхапіла стан. Паліна і тут змаўчала і не вырывалася.

— Зноў ад цябе, хоць закусвай, гарэлкай чхае,—папракнула яна.—Сап'ешся, даражэнькі.

— Я магу кінуць піць.

— Калі? Як рак на гары свісне?

— Як ты загадаеш.

— Не маю права. Знайдзі незамужнюю. Дзевак, слава богу, хапае.

— На ліха мне хто. Можа, я цябе люблю!

Хвёдар абхапіў Паліну і, колючыся шчэццем, прынік да яе вуснаў.

— Пусці! Сярод вуліцы! Здурэў!

Вострымі локцямі штурхнула яго ў грудзі, вывернулася з абдымкаў.

— Пастой!—Ён памкнуўся наўздагон. — Пачакай!

Але Паліна не азірнулася. Куляй уляцела ў свае веснічкі і затупацела на ганку.

●

Ад збытку вільгаці капуста, бурачкі, памідоры ўвачавідку рушылі ў рост, забуялі. Асабліва разлапушыўся, дружна ўзняў на дзябёлых ножках шабурсткія лісткі-парасоны гурэчнік; распоўзся далёка ў бакі, месцамі нат дасягнуў загарадзі і ўзабраўся на частакол. З аглядкаю, каб не пацерці кволых парасткаў, Паліна пераступала з грады на граду і ў падол збірала гуркі. За час дажджоў іх паявілася столькі, што адгробу няма: як крок—так падол. Куды толькі дзяваць? Дзежачка ўжо засолена. Цяпер во на бочку навыбірала—цэлую гару насыпала пад сенцамі на мурагу, а яшчэ палову не агледзіла. З другой паловы таксама столькі, калі не больш, будзе. І ўсе — адзін пад адзін, не тое, што ў спёку—заморкі. Разгорнеш гурэчнік — ляжаць, бы парасяткі: тоўсценькія, крамяныя, з прыліплымі да бакоў камячкамі зямлі, у кропельках расы. Проста заглядзенне!

Паўдзённае сонца пякло няшчадна. Ад сырой, угрэтай зямлі ішла густая парнасць і нерухома вісела над гародам. П'янка, ажно біла ў нос, пахла кропам і патрывожанай глухой мятай.

Налаташыўшы падол, Паліна выцерла тыльным бокам рукі і лоб.

# ЗВОН

— Гурочкі выбіраеш?—знячэўку застаў яе Глякаў голас.

— Цьфу, цьфу! — спуджана падскочыла яна.

Перавісшы праз загарадзь, Хвёдар тросся ад нястрымнага смеху, выскаляў белыя зубы.

— Напалохалася?—супакоіўся ён.

— Няўжо ж не. Гэта ж гаркнуў так.

— Можа табе памагчы?

— Сама ўпраўлюся. Ідзі ўжо, куды ідзеш.

— А я на цябе паглядзець хачу.

— Тут не кіно.

— Не гасцінная ты, Поля. Гоніш. Што б пачаставаць чалавека гурочкамі.

— Свае павінен мець.

— Хто ж мне іх вырасціць? Быў пасеяў, дык не ўзышлі, а якія ўзышлі — суседскія куры павыдзіралі.

— Во, бедненькі! Тады адарву.

Паліна выбрала з дзесятак самых зялёных у пухірках гуркоў і паднесла да загарадзі, спынілася насупраць у цяньку вішні.

— Дзякуй. Слаўныя гурочкі! — Хвёдар схапіў яе за рукі. — А гаспадынька яшчэ лепшая — што памідорка! Мне б такую! Не хацеў бы і гуркоў тых!

— Звар'яцеў! — спалохана, ці не бачыў хто, азірнулася па баках Паліна. — Апамятайся! — Яна вырвалася і скокнула ў грады. — Змывайся, пакуль суседзі не заўважылі.

— Зараз, — пасур'ёзнеў Гляк. — Дай толькі скажу пару слоў.

— Што яшчэ?

— Слухай, Поля! Прыйдзі сёння вечарам да мяне ў госці.

— Больш нічога не прыдумаў? Не хапала плётак?

— Ну, за вёску выйдзі, на Лысую Гару.

Паліна кінула позірк на Ананневу хату:

— Цішэй ты, рупар! Пачуюць вунь!

— Дык прыйдзеш?

— Прыбягу, як міленькая.

— Прыйдзі!

— Адчапіся, смала!

— Я буду чакаць.

Дзе б ні была, што б ні рабіла: ці то дома шчыравала, ці то на ферме ўвіхалася, Паліна думала пра Хвёдара. «За каго ён прымае мяне, — злавала на яго ўсякі раз. — Бач, удумаў што!»

Але дома, калі гусцелі за вокнамі пацёмкі, яе ахапіў неспакой. Не заўважаючы ні таго, што рабіла, ні Рамана, яна, быццам сонная, бразгала талеркамі.

— Паліна! Ці не аглухла ты? — утаропіўся муж.

Паджары, сутулаваты, з прылізанымі ад ілба да шышкаватай патыліцы рэдзенькімі валасамі, ён выцягнуў далёка на хату худыя ногі; сядзеў за сталом на заўсёдным месцы і барабаніў вузлаватымі ў суставах пальцамі.

— Палагея! — павысіў Раман голас.

Жонка нарэшце схамянулася, няўцям паглядзела на яго.

— Што з гуркамі рабіць будзем, пытаю?

— Аддаць трэба, у каго не ўрадзіліся.

— Так, за будзь здароў?

— Куды ж дзяваць?

— Прадай.

— Каму? Сорамна са сваіх грошы браць.

— На базар адвязі.

— Мне ж ад кароў не адлучыцца.

— Выбераш час. Раненька падаі і газуй. Работы зараз ля тваіх кароў не так многа, не зіма, — шумна вудзячы лыжкай шчаўе, гаварыў Раман. — Я сам павёз бы, каб не гэтае бухгалтэрства. Зранку да вечара гарбееш над лічыльнікамі. Кожны дзень адно і тое ж: дзебеды, крэдзеды. Галава ажно трэскаецца. Апрыкрала ўжо. Ні пад дожджыкам не памокнеш, ні пад сонцам не папячэшся. Як прыкаваны, тырчыш у чатырох сценах. Мілае дзела — пратрэсціся.

— Ладна, — змірэнча прамовіла жанчына. — Управіцца б к паўдзённю на ферму.

— Дарога невялікая. Дзесяць раз туды і назад злятаеш.

Залпам ён выпіў два кубкі сырадою, устаў і, сярдзіта сапучы, зазбіраўся на гарышча, дзе з вясны і амаль да белых мух спачывае на тапчане пад ватняй коўдрай і старэнькім, з'едзеным моллю кажухом.

— Заўтра каб прадала гуркі, а то звянуць, выпшыкаюцца — нічога за іх не возьмеш, — голасам, які не цярпеў пярэчанняў, напомніў Раман з сянец. — Ды, глядзі, не прадзешаві.

Гучна ляскаючы, Паліна перамыла посуд, пасастаўляла ў буфецік і спешна пстрыкнула выключальнікам. У святле поўні, што праз кусты бэзу зазірала праз шыбы, распранулася.

У хаце было месячна, хоць збірай іголкі. Нябачны пад столлю, нудна пішчаў камар, быццам скардзіўся на адзіноту. У мыцельніку ці пад прыпекам, ледзь заціх рып маснічын, завёў сваю песню цвыркун.

Здаецца і не плакала, а падушка стала мокрай. Паліна перавярнула яе на другі бок і павярнулася сама на спіну. Ляжала з расплюшчанымі вачыма, кусала губы.

«Не магу, не магу больш!» Як ніколі, злым і нелюдзімым бачыўся Раман. «Няўжо я любіла і люблю яго? — спытала ў сябе і з жахам прызналася: — Не, не!»

За Рамана яна выйшла маладзенькай — толькі семнаццаць мінула. Раман амаль на два дзесяткі быў старэйшы за яе. Яго тады камісавалі з арміі, дзе ён служыў старшыной. Зухаваты, пры медалях, былы вайсковец прытка ўлёг за ёй. Дзяўчына ўсяляк старанілася такога кавалера і не думала пра замужства. Але павярнулася так, што з-за Раманавых залётаў і злых языкоў у вачах людзей яна зрабілася нікчэмнай. Раман нібыта чакаў гэтага, заслаў сватоў, маўляў, хто цябе возьме такую, табе цяпер, хочаш-няхочаш, адна дарога — за мяне ісці...

Перад вачыма ўзнік Хвёдар, прыгляну ліся ўсмешлівыя, у павалоцы стоенага смутку, Хвёдаравы вочы. «Якія яны добрыя ў яго. Не тое, што ў Рамана. Раман заўсёды спадылба зыркае». Падумалася пра спатканне. Заруціла: ісці ці не ісці на Лысую Гару? «Пайду! Што будзе, таму не мінаваць».

Рашуча Паліна адкінула коўдру, адзелася, падбегла да вакна, таўхнула створкі. Прарэзлівы віск іржавых петляў разарваў цішыню. Спалохана Паліна адскочыла прэч і ўпала на ложак, навастрыла слых, ці не пачуецца на гарышчы кашаль, ці не загрыміць прыстаўленая да сцяны драбінка. Не, здаецца, спакойна.

Калі апынулася на прызбе, асцярожна прычыніла форткі, паўслухвалася, затым дробным поступам пакралася вакол дома; выйшла на падворак, праз варотцы выбралася ў гарод і па бульбе падалася на паплавы. Перавяла дыханне ўжо на мяжы. Але па-ранейшаму кідала наўкола позіркі і на ўсякі выпадак трымалася ценю грушдзічак, якія раслі ўздоўж.

Хвёдара ўгледзела здалёк. Яго постаць маячыла ўзад-уперад на самай гары. Часам Хвёдар заміраў — узіраўся.

Зачуўшы крокі, ён спыніўся: ці не здалося? А як згледзеў, шпарка падаўся насустрач.

— Прыйшла?! — Хвёдар узяў Паліціны рукі ў свае. — А мне верылася і не верылася.

Паліна ўздыхнула.

— Нягодніца я.

— Не гані ваду пад гару. — Гляк прытуліў яе да сябе. — Ты плачаш?

— Не.

Яна перасмыкнула губамі і ражком касінчка выцерла шчокі.

— Не трэба, Поля! Чуеш?

— Ладна — не буду.

— Усміхніся.

— Блазан!

— Вось і малайчына.

Хвёдар падняў Паліну і закружыў у паветры.

— Ой, хопіць!.. Упаду!

На гары ён апусціў яе.

— Ненармальны!

Са смехам апраўляючы сукенку, яна азірнулася.

— Лепшага месца ты не знайшоў? На самую макаўку ўсцягнуў. Як на далоні бачны з вёскі.

— Ну і што? Няхай глядзяць, каму ахвота. Я зараз сам закрычу, каб усе, увесь свет чуў і бачыў нас!

— Ох, разумнік! А пра мяне падумаў? Я ж не дзяўчынка.

— Баішся.

— Баюся.

Паліна павярнулася:

— Пойдзем адсюль.

Выпала буйная і пякучая раса. Нават праз абутак яна студзіла ступні.

З-пад ног, піскнуўшы, нехта выскачыў. Паліна войкнула, прытулілася да Хвёдара. Той засмяяўся.

— Зайца спудзілі — спаў. Ён заўсёды, калі напалохаецца, дзіцём ускрыквае.

Ля сцяны аўса, у затулку алешніка, на дзяцельнай пожні спыніліся. Хвёдар зняў пінжак і разаслаў. Поплеч селі, прыхінуліся адзін да аднаго. Знябытая пасцы, Паліна абвіла Хвёдара рукамі і абсунулася на зямлю...

— Харошая ты, Поля!

— Яно і відаць — цаца.

— Праўда, харошая. Раман твой толькі не бачыць, — прамовіў Хвёдар і прапанаваў: — Выходзь за мяне! Век не пакрыўджу. Паглядзіш.

— Быстранькі ты! Не-е-э, — працягнула Паліна. — Як можна? Гэта ж страшна падумаць.

— А не думай. Выходзь і ўсё.

— Не.

Неўпрыкмет поўня схавалася за небакрай. Пачало днець. Шырэй і шырэй браўся ўсход чырванню. Цемрадзь радзела, раставала, як дым. У вёсцы, ачнуўшыся, лопнуў крыллем і хрыпла кукарэкнуў певень. За ім — другі. А праз мінуту зычныя крыкі паляцелі з кожнага двара. Быццам асведаміўшыся, ці ўсе цэлы, ці не сцягнуў каго тхор і, даўшы знак, што раніца на падыходзе, пявуны ўціхаміры ліся; зноў забыліся ўжо ў нядоўгай дрэме.

Над зямлёй прайшоўся світальны ветрык. Атрасаючы з мяцёлак расу, захісталася ад краю, ажыло аўсянае поле.

— Чуеш — музыка! — услухалася Паліна.

— Авёс звініць!

— А я нават не здагадвалася, што ён можа звінець!

Пакуль не ўлёгся ветрык, абое, узняўшыся на локаткі, слухалі чароўны шум.

Расставаліся пад гарой ужо са святлом.

Паліну ані не турбавала, што муж недзе спахапіўся яе. Не палохала і тое, што будзе пасля. Паціху яна крочыла поплавам. Ішла, куды глядзелі вочы.

На ферму прыбегла, не заходзячы дамоў. Сонца ўжо ўзнялося над аборамі. Той-сёй з даярак управіўся падаіць сваіх кароў, а астатнія заканчвалі даенне. Са зматанай пугай Спірыдон тоўкся ў кароўніку, незадаволена бурчаў, лаяў Паліну—заспала сёння; што сабе думае: на цэлую гадзіну статак затрымала. Забачыўшы яе, ён падляцеў каршуком, усчаў адчытваць: куды гэта варта!

Падбегла Марына. Папытала, чаму запазнілася. Паліна махнула рукой — потым раскажу, і папрасіла пасабіць.

Калі дадойвала апошнюю карову, хтось спыніўся побач, хапіў за плячо. Паліна ўзняла вочы — Раман! Тонкія, бяскроўныя губы яго трэсліся, твар пабраўся чырвонымі плямамі.

— Чаму не начавала дома? — дрыготкім голасам папытаў ён.

— На ферме была: Зорка аб'елася — бакі ёй расцірала, — насуперак волі, недарэчы зманіла яна.

— Брэшаш! Цябе, ідучы з рыбы, Ананія бачыў пад Лысай Гарой з Глякам.

Ён учапіўся ёй за валасы і сухім кашчавым кулаком гвазданyў па галаве. У ваччу пайшлі жоўтыя, зялёныя кругі.

Бэронячыся, Паліна знячэўку пацэліла яму пад дых. Раман ікнуў, адхіснуўся, наўзніч упаў, патыліцай выцяўся аб сцяну.

«Які ж ён лёгкі і кволы», — падумалася раптоўна. Стала шкада яго. Яна памкнулася, каб дапамагчы яму. Але той падхапіўся сам. Раман быў страшны. Злым, нават лютым яна бачыла яго часта, а такім — ніколі.

Муж схапіў нейкі дубец. Паліна кінулася прэч. Выбегла з кароўніка і пусцілася да брыгадзірскай.

Напаўдарозе Раман нагнаў яе, пачаў біць.

Збегліся людзі. Адны, трымаючыся ў баку, ганьбілі Паліну і паддавалі жару Раману. Другія, наадварот, стаялі гарой за яе. Той-сёй кінуўся, каб адняць яе ў Рамана.

Ад гаражоў прыскочыў Хвёдар. Расштурхнуў натоўп, засланіў сабой Паліну.

— Адыдзі — удару! — прасіпеў Раман.

— Паспрабуй!

Хвёдар узняў яго за пелькі, трахануў—той адляцеў крокаў за пяць.

Знеякавеўшы, Раман больш не палез. Зразумеў: не па сіле нарваўся.

— Знявечу, заб'ю, гадаўка! — пагражаў ён здалёк Паліне.

— Крані хоць пальцам! — сказаў Гляк.

Раман сумеўся.

— Не паказвайся, шкура, дахаты. Больш табе няма чаго рабіць там.

— А ты б хацеў, дык яна не пойдзе.

— Можа да сябе возьмеш?

— А што? Згодзіцца — вазьму.

— На здароўечка! Вядзі. Толькі няхай свае транты прыхопіць, пакуль я не выкінуў.

— Яна табе пакіне іх, — не стрывала Марына. — Напхаеш сукенку саломай і будзеш любавацца.

Паліна маўчала. Стаяла ля Гляка і, здавалася, нічога не чула і не разумела.

— Паглядзіце на гэтую поскудзь! — запырскала слюнёй Анюта. — Назбродвала, а ёй хоць бы хны. І не пакаецца. Быццам так і трэба. Нават бельмаў бессаромных не апусціць.

— Заткніся, т-ты! — праз зубы выдавіла Марына. — Чыё б цялё мычала, а тваё — маўчала.

Баючыся лішняга напамінку пра татарына, Анюта глытнула слюну і змоўкла.

— Пойдзем, Поля, — прамовіў нарэшце Хвёдар.

Ён узяў яе пад локаць, і яны рушылі. Людзі расступіліся, давалі ім дарогу.

— Палагея!.. Паліна!.. — апамятаўся Раман. — Ідзі дамоў! Не дуры! Чуеш?

Але Паліна не азірнулася.

І. ЯЛАТАМЦАВА

# ВЯЛІКІЯ ЗАДАЧЫ МАЛОЙ СКУЛЬПТУРЫ

ВОСЬ УЖО больш дзесяці гадоў, як у Беларусі прыкметна ажывілася развіццё скульптуры малых форм, прызначанай упрыгожваць жытло, інтэр'еры ўстаноў. Папулярнасць гэтай скульптуры абумоўлена і поспехамі жыллёвага будаўніцтва, і ростам дабрабыту народа, і ўзмацненнем увагі мас да эстэтыкі быту.

Як вядома, дробная пластыка мае і агульнае з іншымі відамі скульптуры, і пэўныя асаблівасці. Як і іншыя віды скульптуры, яна — разнастайная па тэматыцы, шматгранна адлюстроўвае свет. Адрозненні ж пачынаюцца ўжо ў характары яе сувязей з матэрыялам, тэхнікай яго апрацоўкі. А калі ўлічыць, што скульптура малых форм прызначана ўпрыгожваць жытло, тады зразумела, чаму яна ў значна большай ступені, чым, скажам, станковая пластыка, ужывае ўмоўныя, стылізаваныя формы і размалёўку — яны актыўна памагаюць ёй набываць адзінства стылю з іншым абсталяваннем памяшкання. Да таго ж творы дробнай пластыкі — пераважна серыйныя, шматтыражныя. Адсюль — патрабаванне эканамічнасці вытворчасці. Вось чаму да гэтай скульптуры павінен быць асаблівы падыход.

Сённяшняя беларуская малая скульптура — вырабы з розных матэрыялаў: фарфору, металу, фаянсу, дрэва, шкла. Гэта і ўзоры серыйнай, масавай вытворчасці, і унікальныя, адзінкавыя творы. Яны прадаюцца ў салонах Мастацкага фонду БССР і фірменных магазінах сувеніраў.

Здавалася б, варта аналізаваць творы дробнай пластыкі, зыходзячы з сістэматызацыі іх па прамысловых прадпрыемствах, у ліку якіх Мінскі фарфоравы завод, керамічная майстэрня камбіната Мастацкага фонду БССР, Брэсцкая і Івянецкая фабрыкі мастацкіх вырабаў, шклозаводы «Нёман» і імя Дзяржынскага і інш. Сістэматызацыя па прадпрыемствах дыктуецца і спосабамі выканання твораў і матэрыялам. Але ўсё больш пашыраецца кола майстроў нашай малой скульптуры за лік самавукаў і прафесіяналаў, не звязаных з прадпрыемствамі. Таму мэтазгодней грунтавацца ў аналізе на экспанатах рэспубліканскіх мастацкіх выставак, дзе з шасцідзесятых гадоў дробная пластыка займае пачэснае месца.

Па характары яна падзяляецца на станковую і дэкаратыўную з яўнай перавагай апошняй. Гэтая перавага намецілася яшчэ ў канцы пяцідзесятых гадоў. Па змесце ж скульптура малых форм — творы на сучасную, гістарычную, фальклорную, анімалістычную тэмы. Калі ўлічыць, што ў прафесійнай станковай скульптуры анімалістычны жанр занядбаны, то можна абгрунтавана гаварыць аб дапаўненні дробнай пластыкай вобразаў, створаных вялікай скульптурай.

УЖО ВЫСТАЎКА 1965 года паказала дабратворныя змены ў малой скульптуры. У жанравую скульптуру малых форм на месца ўмоўна-прыгожых і статычных фігурак казачных герояў і танцоўшчыц прыйшлі вобразы, падказаныя сучасным жыццём. Новыя тэмы ў творах Л. Багданава «Сяброўкі», «Франціха», «Гандлярка», «Пастух са статкам», «Дзед і ўнучка», М. Заборава «Манюня з алоўкам» і іншых захапілі гледача лірычнасцю, мяккім гумарам, паэтычным успрыманнем жыцця. Мастакі імкнуліся расшырыць добра знаёмыя тыповыя рысы людзей розных прафесій, узростаў, характараў. Бясспрэчна, ад першых рэчаў было рана чакаць выдатнай мастацкай якасці, але прывабнасць іх — відавочная.

«Франціха» Л. Багданава перадае жыццялюбства і разам з тым вузкасць інтарэсаў дзяўчыны, якая да самазабыцця захапляецца модай. Яе грубаватыя манеры сведчаць нават аб няразвітым гусце. Але, нягледзячы на негатыўныя моманты ў характарыстыцы натуры, у аўтара няма сарказму. Ён, жартуючы, нібыта вучыць. Таму зместу твора не супярэчыць яго радасны тон, энергічныя рытмы форм і ліній умела акрэсленых дэталяў. Прыгожыя колеры робяць фігурку прыкметнай у інтэр'еры, куды яна здольная ўвайсці арганічна. А вось «Гандлярка». Манахромнасць размалёўкі. Маналітнасць формы. Адсюль — каштоўныя рысы дэкаратыўнасці. Грубаватасць натуры зноў-такі нагадвае, што варта больш клапаціцца пра культуру. Дарэчы, вялікай скульптуры такія павучальныя ноткі не ўласцівыя, і гэта падкрэслівае своеасаблівасць мовы малых форм.

І ў самім роспісе керамічнай скульптуры намеціўся якасна новы падыход до колеру. Раней размалёўвалі скульптуру ў натуральныя колеры. Цяпер размалёўка стала вызначацца не так натурай, як агульнай мастацкай задумай. Нярэдка яна — умоўная, падкрэслена дэкаратыўная. Цяпер форма і дэкор не дубліруюць сваё прызначэнне, а дапаўняюць адно аднаго. Колер дагаворвае тое, чаго не дагаварыла форма. І наадварот. Ад гэтага іх узаемная сувязь — унутрана неабходная і трывалая. Так, жадаючы актыўна скарыстаць колер, скульптар абагульняе форму і згладжвае паверхню, каб рысунак чытаўся. Натуральна, без роспісу такая форма выглядала б непаўнацэннай. Л. Багданаў скупую форму добра ажыўляе трапнымі мазкамі роспісу.

НЕКАТОРЫЯ мастакі часта настолькі адыходзяць ад другараднага, што скульптура пачынае нагадваць драўляных матрошак. Так з'явіліся дэкаратыўныя лялькі для дарослых, досыць-такі папулярныя. Гэта — новае ў сучаснай малой скульптуры. Прывабнасць гэтых лялек — у добрых мастацкіх і утылітарных якасцях. Яны зручныя ў абыходжанні, добра глядзяцца ў любым памяшканні. Невялікія памерам і абагульненыя па формах, стылізаваныя лялькі адпавядаюць маштабам сучаснага жытла і добра камбінуюцца з іншымі бытавымі прадметамі, не патрабуючы музейных умоў для агляду.

Фарфоравыя лялькі праклалі шлях на кніжныя паліцы кватэр і драўляным цацкам-сувенірам. Шырыня тэматыкі, разнастайнасць кампазіцыйных вырашэнняў і прывабліва мудрая наіўнасць вобразаў паставіла многія з іх у рад з лепшымі дасягненнямі дэкаратыўнага мастацтва.

Точаныя цацкі М. і У. Басалыгаў неаднаразова атрымлівалі высокую ацэнку ў рэспубліцы і за яе межамі. Сувеніры па іх узорах выпускае Брэсцкая фабрыка мастацкіх вырабаў.

М. і У. Басалыгі развіваюць традыцыі народнага беларускага мастацтва. У ім яны чэрпаюць тэматыку твораў, на яго абапіраюцца ў інтэрпрэтацыі матываў сучаснага жыцця. Ураджэнцы Случчыны, якая здаўна славіцца мастацкімі рамёствамі, М. і У. Басалыгі дасканала валодаюць арнаментам. Добра ведаюць і мясцовы побыт, звычаі, касцюмы, тыпы людзей. Яны паспяхова афармляюць у народным стылі кнігі, сувенірныя паштоўкі, бытавыя рэчы. Дыяпазон іх творчасці спрыяльна адбіўся на выглядзе точаных цацак, у якіх лёгка і свабодна спалучаецца немудрагелістая форма з народным роспісам, этнаграфічна дакладная перадача ўсіх асаблівасцей аблічча і бытавога акружэння людзей з мастацкай выразнасцю формы. М. і У. Басалыгі скарыстоўваюць гумарыстычныя штрыхі ў характарыстыцы персанажаў. Перад намі праходзяць тыпы сялян, якія быццам сышлі са старадаўніх лубкоў: «Дзядуля і бабуля», «Сваты», «Музыкі». Вобразы сучасных гараджан і вяскоўцаў трактаваны гратэскна, дасціпна і разам з тым праўдзіва: «Зорка Венера», «Сямейка», «Прыгажуні», «Хай заўжды будзе сонца». Добра, што мастакі не замыкаюцца ў рамках мінулага, не ідэалізуюць патрыярхальшчыну, успрымаючы мінулае вачыма сучаснікаў і мякка жартуючы з тых, хто сёння сустракаецца часцей у казках ды спектаклях.

У серыі цацак, якія адлюстроўваюць прадстаўнікоў старадаўняга рамяства — ганчара, бондара, ткачыху,— аўтары не пакідаюць думкі пра тое, што перад намі толькі забаўныя героі мінулага. Натуральна, што ў такой сітуацыі яны не спыняюцца на цёмных баках іх побыту, не адзначаюць непасільнай працы колішніх саматужнікаў. Цёпла малююць яны і сучаснікаў у іх штодзённых клопатах. Жартаўлівыя інтанацыі размовы гэтых мастакоў асабліва стасуюцца да бытавога жанру. Гераічныя тэмы, манументальныя вырашэнні ім не ўласцівыя.

Тут можна чакаць пярэчання: маўляў, сам жанр цацкі-сувеніра арыентуе на жарт, забаву. Гэта і так, і не так. Справа ў тым, што назва «цацкі» распаўсюджваецца на сувеніры ўмоўна. Яны прызначаны для дарослых і не служаць для гульні. Ад першаасновы—народнай цацкі—у іх засталіся толькі ўмоўныя прыёмы выканання ды сапраўды невычэрпны аптымізм вобразаў. М. і У. Басалыгі ўсе фігуры расстаўляюць на плінтусах, чаго звычайна не рабілі раней саматужнікі-цацачнікі.

Своеасабліва перададзены каларыт народнага жыцця, звычаяў і абрадаў у «Сватах». Сяляне — у вышытых кашулях, як гэта здаўна прынята абрадам. Бытавыя дэталі тут арганічныя. Жадаючы звярнуць увагу на ўрачыстасць абраду, мастак акцэнтуе строгія вертыкалі застылых фігур. Гэта ўвязваецца з тэхнікай тачэння з дрэва. Аўтар уносіць эмацыянальную разрадку ў сітуацыю, надаючы наіўна-дабрадушны выраз позам персанажаў. Круглыя вочы, рукі-палачкі, цыліндрычнай формы целы і шарападобныя галовы параўноўваюць людзей з лялькамі. Твор успрымаецца як своеасаблівы жарт. Умоўная форма гарманіруе з падкрэслена гумарыстычнай мімікай.

Апрача Басалыгаў, маем і іншых майстроў тачэння па дрэве. Цікавыя творы В. Гапака — «Народныя музыканты», «Спявачка», «Грыбнікі», «Касец», «Суvoраўка», «Чырвоная конніца», М. Рыбалкінай — «Дзяўчына са скакалкай», «Чырвоная шапачка», «Снягурачка», «Аленка», «Царэўна Несмяяна», «Марозка», «Кветачка-сямікветачка», «Машачка». Як можна бачыць, у М. Рыбалкінай пераважае казачная тэматыка рускага фальклору. Яе цацкі, на жаль, не заўсёды глыбокія па задуме і не заўсёды арганічныя па вырашэнні.

У цэлым жа сучасная беларуская точаная цацка цікавая не толькі з пазнавальнага, утылітарнага, але і з чыста мастацкага боку. Яна ўносіць істотна новае ў пластыку малой скульптуры, шырока скарыстоўваючы магчымасці ажуру форм. Калі фарфоравая скульптура цяпер часцей — кампактныя абцякальныя аб'ёмы з вельмі абагульненымі сілуэтамі, без прасветаў паміж асобнымі часткамі, то ў точаных вырабах—шмат прасветаў, мантаж многіх дэталяў. Калі тулава робіцца маналітным, дык рукі, ногі, розныя дэталі прыклейваюцца пазней і дапаўняюць ажурам агульны сілуэт. У некаторых выпадках, як у ляльці «Аленка» М. Рыбалкінай, скарыстоўваецца прынцып лялек-матрошак. Але вуглаватасцю контура

# НА ПАРАДКУ ДНЯ— НАРОДНАЯ КАЗКА

Вывучэнне народных казак— адна з важных галін фалькларыстыкі, якая мае свае даўнія традыцыі і немалыя здабыткі. Да казак звярталіся прадстаўнікі самых розных навук: фалькларысты, моваведы, гісторыкі, філосафы, і ўсе яны знаходзілі каштоўны матэрыял для сваіх даследаванняў. Казкі жывілі сусветную літаратуру, даўшы пачатак навеле, аповесці, раману, яны выхоўвалі многія пакаленні чалавецтва, узбуджалі фантазію людзей, спрыялі прагрэсу грамадства.

Тэарэтычным і практычным пытанням савецкага казказнаўства была прысвечана рабочая нарада фалькларыстаў, склікаaная Інстытутам рускай літаратуры (Пушкінскім домам) АН СССР, Башкірскім дзяржаўным універсітэтам і Уфімскім інстытутам гісторыі мовы і літаратуры Башкірскага філіяла АН СССР. У нарадзе ўдзельнічалі вядомыя вучоныя-фалькларысты: дырэктар Інстытута рускай літаратуры АН СССР, член-карэспандэнт АН СССР В. Базанаў, загадчык кафедры фальклору МДУ прафесар М. Краўцоў, дактары навук В. Яўсееў (Петразаводск), А. Кірэеў (Уфа), Л. Шаптаеў (Ленінград), Г. Сухабрус (Кіеў), Л. Бараг (Уфа) і іншыя даследчыкі народнай творчасці.

Ва ўступным слове В. Базанаў падкрэсліў, што казка — найбольш філасофскі жанр народнай творчасці, яна фарміруе светапогляд і эмацыянальны свет чалавека, яго эстэтычныя густы. Фальклору ўласцівы як вялікія адкрыцці, так і вялікія памылкі, і таму складаны і супярэчлівы фальклорны працэс патрабуе гістарычнага падыходу. У сувязі з гэтым В. Базанаў закранае пытанні метадалогіі. Паспяховае пераадоленне вульгарна-сацыялагічных канцэпцый не дае падстаў адмаўляць разумнага сацыялагізму наогул. Гісторыка-параўнальны метад — асноўны метад нашай фалькларыстыкі — павінен быць накіраваны не толькі ў мінулае, але і ў сучаснае. Зараз на Захадзе ў вялікай модзе структуралізм, які знаходзіць прыхільнікаў і ў нашай фалькларыстыцы. Але структуралізм па сваёй метадалогіі бывае розны. Структуралізм можа быць прыняты намі толькі як адзін з шматлікіх спосабаў даследавання, калі ён не пярэчыць метадалагічным асновам нашай навукі.

Вылучаючы асноўныя напрамкі, па якіх неабходна весці работу, В. Базанаў заклікае шырэй распрацоўваць праблему «Ад казкі да рамана».

Многа важных і цікавых праблем, якія зараз у цэнтры ўвагі фалькларыстаў, было ўзнята ў дакладах і паведамленнях. Перш за ўсё гэта пытанне азначэння жанру казкі, пастаўленае ў дакладзе М. Краўцова. Існуючыя зараз азначэнні казкі не даюць магчымасці дакладна вылучыць гэты жанр, таму што засяроджваюць увагу на другарадных з'явах і фактах, уласцівых розным жанрам. На думку Краўцова, вызначэнне жанру казкі павінна ісці ў напрамку выяўлення адрозненняў казкі ад эпасу, а таксама яе адрозненняў ад іншых апавядальных твораў.

Некалькі дакладаў на нарадзе было прысвечана праблеме ўзаемадзеяння казкі і іншых жанраў фальклору. На фальклорным матэрыяле розных народаў даследчыкі В. Яўсееў, Э. Кірэеў, Л. Шаптаеў паказалі, што двухбаковы працэс узаемадзеяння казкі і эпасу мае самыя разнастайныя формы. Найбольш вядомы прыклады пераходу эпічных твораў у казкі, што можна назіраць і ў беларускім фальклоры, дзе ёсць вялікая група казак на былінныя сюжэты. Разам з тым і казкі аказалі свой уплыў на эпас. Напрыклад, вядомы казачны сюжэт «Хітрая навука» ў карэльскім фальклоры распрацаваны як эпічная песня, якая дапаўняе біяграфію героя. Апрача запазычання казачных сюжэтаў, у эпічнай творчасці шырока выкарыстоўваецца і казачная паэтыка.

Параўнальнае вывучэнне казак розных народаў было тэмай дакладаў Д. Яшына і Л. Барага. Аналізуючы сюжэтны склад усходнеславянскіх казак, Л. Бараг унёс некаторыя ўдакладненні ў жанравую характарыстыку ўкраінскіх казак, дзе запісы казак аб жывёлах складаюць прыкладна 14 працэнтаў. Па словах дакладчыка, выяўляецца значна большае адзінства ў сюжэтных адносінах ва ўсходнеславянскіх казках, чым аб гэтым пісалі раней.

Прафесар А. Маскаеў і фалькларыст Н. Зарыпаў у сваіх дакладах спыніліся на сучасным стане казачнай традыцыі. Абапіраючыся на апошнія запісы мардоўскіх і башкірскіх казак, яны сцвярджалі, што казка яшчэ займае віднае месца ў духоўным жыцці народа, захоўвае выхаваўчыя функцыі і не страціла перспектыў развіцця.

Праблема спецыфікі мастацкага вобраза чарадзейнай казкі была адной з асноўных у дакладзе фалькларыста М. Новікава, пра фарміраванне нацыянальных асаблівасцей беларускіх казак ішла размова ў маім дакладзе. Шэраг змястоўных дакладаў, насычаных багатым фальклорным матэрыялам, быў прысвечаны башкірскім казкам.

На нарадзе была арганізавана выстаўка літаратуры па казказнаўстве. Удзельнікі нарады з задавальненнем прысутнічалі на канцэрце, дзе майстры мастацтва выконвалі башкірскія народныя песні і танцы.

Уфімская рабочая нарада цікавая не толькі пастаўленымі ў дакладзе навуковымі праблемамі, але і рашэннямі, якія, бясспрэчна, будуць спрыяць далейшаму разгортванню фальклорных даследаванняў. На гэтай нарадзе было прапанавана склікаць усесаюзную канферэнцыю па вывучэнні народных казак восенню 1973 года ў Мінску. Папярэдне акрэслены асноўныя праблемы, якія будуць абмеркаваны. Гэта: казка як жанр фальклору, параўнальна-гістарычнае вывучэнне казак і іх нацыянальныя своеасаблівасці, паэтыка казкі, адлюстраванне народнага светапогляду ў казках, асаблівасці казачнай тыпізацыі. Вырашана таксама разгарнуць работу па складанні Паказальніка сюжэтаў усходнеславянскіх казак, у якой прымуць удзел вучоныя Ленінграда, Кіева, Мінска, Уфы. Мяркуецца выканаць гэту калектыўную працу да 1975 года.

Ажыццяўленне рашэнняў уфімскай рабочай нарады па фальклоры патрабуе ад даследчыкаў беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці актывізацыі работы ў галіне вывучэння і публікацыі казачнага эпасу — гэтага неацэннага скарбу народнай мудрасці і паэтычнага генія.

К. КАБАШНІКАЎ.

драўляная «Аленка» істотна адрозніваецца ад аналагічных лялечных фігур у кераміцы.

Шырока вядомы тэракотавыя статуэткі В. Пушкара.

Знаўца беларускага фальклору, народнага побыту, ён, як і Басалыгі, настойліва шукае шляхі адлюстравання своеасаблівага ўкладу жыцця, звычаяў і знешняга аблічча жыхароў Беларусі. Жаданне даць канцэнтрацыю гэтых рыс звярнула яго ўвагу на сродкі гратэску.

Аўтар гаворыць у асноўным аб фальклорных і літаратурных героях: «Лявон», «Лявоніха», «Тарас на Парнасе», «Сымон-музыка». Любіць таксама паказаць камічных дзядоў, бабулек, якія ўспрымаюцца як увасабленне невычэрпнага жыццялюбства.

У кераміцы В. Пушкара — паўнаважкасць аб'ёмаў, дакладная прарысаванасць контураў. Як і многія іншыя керамісты, ён працуе ў абагульненай манеры, стылізуе форму ў духу народных гліняных лялек. Удала спалучае масіўную частку асноўнага аб'ёму з нешматслоўнымі, дакладнымі дэталямі, добра выкарыстоўваючы колер абпаленай гліны. Вялікія чырвона-карычневыя паверхні цел амаль усюды не крануты пэндзлем. Скупа ўжытым белым ангобам даюцца народны арнамент на адзенні і сівыя валасы. Недахопы твораў В. Пушкара — некаторая стэрэатыпнасць вобразных вырашэнняў, якія часам паўтараюцца ад працы да працы. Гэта стала прыкметна пасля выстаўкі «На варце міру» (1968), калі аўтар прадставіў серыю на ваенную і сучасную тэму: «Марскі воўк», «Дзяцінства нашых бацькоў», «Савецкі волат», «Беларусь — маці партызанская», «Як родная мяне маці праводзіла», «Чырвонаармеец».

У СУЧАСНАЙ бытавой пластыцы кампазіцыі манументальна-дэкаратыўнага плана рэзка вылучаюцца як па тэматыцы, так і па кампазіцыйных вырашэннях. Яны нічога агульнага не маюць з ляпькамі, далёкія ад гумару. Але таксама добра адпавядаюць спецыфіцы скульптурнага ўбрання жытла. Часцей за ўсё яны звязаны з традыцыяй адлюстравання адкрытага цела. Многія скульптуры бываюць значных памераў, так што іншы раз іх цяжка аднесці да малых, камерных. Яны рэзка адрозніваюцца ад колішніх аналагічных твораў, якія выконваліся ў акадэмічнай манеры.

У гэтым плане актыўна працуе Н. Якавенка. Вядомы яе аднафігурныя і шматфігурныя кампазіцыі з тэракоты, шамоту, таніраванага гіпсу: «Мары», «Адпачынак», «Дзяўчына, якая сядзіць» і іншыя. Работы Н. Якавенкі не вельмі разнастайныя па жыццёвых матывах, адлюстроўваюць адну або некалькі жаночых фігур. Пераважае спакойны стан — адпачынак, роздум. Нягледзячы на адсутнасць вострых сюжэтаў, творы вылучаюцца ўнутранай стрыманасцю, сілай, пластычнай прыгажосцю. Н. Якавенка не утрыруе жывых форм, як цацачнікі, але, дзякуючы востраму пачуццю дэкаратыўнасці, умее падмеціць графічную вастрыню сілуэта. Калі-нікалі яна паказвае і людзей у хуткім руху, звяртаючы ўвагу на рытмічнае чаргаванне форм і ліній, размеркаванне скульптурных мас у асяроддзі святла і паветра.

Тыповае для Н. Якавенкі вырашэнне — «Адпачынак». Дзяўчына ў свабоднай позе. Стройная фігура прыгожа выгнулася. Адкрытае цела песціцца ў промнях цёплага сонца. Стройная гармонія фізічнага і духоўнага ў чалавеку. У напружанасці форм, строгай заканамернасці іх члянення — унутраная энергія.

Работы Н. Якавенкі з шамоту часта бываюць таніраваны ў прыгожыя блакітныя тоны, якія ўзмацняюць адчуванне прыгажосці пластычнай формы. У яе скульптур няма плінтусаў. Мадэлі разлічаны на ўстаноўку проста на стале або шафе. У гэтым — свой вялікі сэнс. Лаканічная па сілуэце, прыгожая па колеры і фактуры рэч надае мэблі нечаканыя акцэнты.

Скульптурны рэльеф стаў шырока ўжывацца ў афармленні кватэр, бо не патрабуе спецыяльнай плошчы стала або паліцы. У ліку твораў, якія запомніліся гледачам апошніх выставак, — дэкаратыўныя пласціны з шамоту, керамікі, дрэва, металу В. Гаўрылава «Сябры», Л. Багданава «Карусель», В. Нямцова «Славяне» (дэкаратыўны трыпціх), В. Куртава «Маці», Н. Рыжыкава «Елачка» і «Жанчына», дэкаратыўнае пано С. Катковай «Лета», дэкаратыўныя пласціны У. Кузняцова і Я. Шыбнёва «Танец», «Паўлін» і «Алена».

У працы над «Танцам» У. Кузняцоў і Я. Шыбнёў правільна выкарысталі магчымасць мадэлі. Яны адлюстравалі рытм руху танцуючага чалавека, амаль нічога не дадаючы ад сябе, і гэтага аказалася дастаткова, каб атрымаць яркую і запамінальную кампазіцыю.

У рэльефе В. Нямцова «Славяне» для надання дэкаратыўнасці форме мастак абагульніў абрысы фігур, выразна выявіў грубаваты «старажытны» контур і дапоўніў паўаб'ёмную фігуру графічным рысункам па паверхні. У выніку скульптурная аснова атрымала арыгінальнае дапаўненне, стала больш выразнай.

Відазмяняючы прыёмы і матэрыялы, усе аўтары не пераходзяць межы сваёй галоўнай задачы: плоскаснае адлюстраванне для гладкай сцяны невялікага памяшкання стварыць максімальна скупымі і выразнымі сродкамі, у стылі сучаснага ўбрання інтэр'ераў.

У анімалістычнай скульптуры працуюць мастакі па шкле, менш — керамісты і іншыя.

ВЯДОМА, адно дзесяцігоддзе — не такі ўжо вялікі тэрмін, каб можна было патрабаваць ад мастакоў, у большасці маладых, стварэння ва ўсіх адносінах дасканалых твораў. Але ўсё ж зробленае сведчыць, што патрабавальнасць да сябе, цесная сувязь з жыццём, творчы кантакт з мастакамі ўсёй краіны памогуць моладзі працаваць яшчэ больш плённа.

*З НОВЫХ ПЕРАКЛАДАЎ*

# РАДАСЦЬ ПЕРШААДКРЫЦЦЯ

*Біяграфія Васіля Сіманенкі кароткая. Ён нарадзіўся ў 1935 годзе на Палтаўшчыне. Скончыў Кіеўскі дзяржаўны універсітэт, працаваў у газетах. Пры жыцці паэта выйшлі два зборнікі вершаў: «Тиша і грім» (1962) і «Земне тяжіння» (1964).*

*Першая кніга В. Сіманенкі была выпушчана невялікім тыражом, але яна выходзіць за рамкі звычайнай літаратурнай з'явы. Свежасцю і шчырасцю пачуццяў і думак веяла з яе старонак. Глыбока бачыць і адлюстроўваць жыццё ва ўсёй яго складанасці, быць працаўніком сярод працаўнікоў, змагаром за лепшыя ідэалы чалавецтва — такія сур'ёзныя мэты ставіў перад сабой паэт на пачатку свайго творчага шляху. Па вершах, якія склалі зборнік «Тиша і грім», патрабавальныя чытачы ўжо вызначылі, што ў маладую ўкраінскую паэзію прыйшоў дастойны яе прадстаўнік. У перыяд агульнага захаплення фармальнымі пошукамі і практыкаваннямі В. Сіманенка вярнуў маладой украінскай паэзіі незацемненую паслядоўную думку, і чытач палюбіў яго творы за мэтанакіраванасць.*

*Грамадзянскай лірыцы В. Сіманенкі ўласцівы мудры абагульняючы погляд на мінулае, сучаснасць і будучыню.*

*З пачуццём хвалявання і вялікай задаволенасці працаваў я над перакладамі вершаў Васіля Сіманенкі. Буду надзвычай рады, калі чытачы «Літаратуры і мастацтва», пазнаёміўшыся з імі, спазнаюць сапраўднае мастацкае задавальненне, адчуюць непаўторную радасць паэтычнага першаадкрыцця.*

Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ.

## Васіль СІМАНЕНКА

### ЛЮБОЎ

Шумяць нямой самотаю лясы,
Калі вячэрні змрок іх ахінае
І нанач ад людскіх вачэй хавае
Прынады іхняй велічнай красы.
Звіняць жывою радасцю лясы,
Калі зара на небакраі грае,
Калі заслону сонца падымае
З іх чыстай, першароднае красы.
Здаецца мне, паўсюдна так бывае,
Было і будзе так ва ўсе часы:
Любоў—як сонца—свету адкрывае
Цнатлівасць чалавечае красы.

Таму ўвесь свет заўсёды бласлаўляе
І сонца, што ўстае, і сэрца, што кахае.

### МАНАЛОГ ГЕРАСТРАТА

Нашто мяне судзілі так зацята!
Ліхія людзі, ваш нікчэмны суд
Не абяззброіў славы Герастрата —
Я існую, я гора вам нясу...

Ад забыцця не ўратаваўся дойлід,
Ператварыўся цесля ў пебяду.
Я з іхняга нябыту выйсці здолеў
І ў неўміручасць па зямлі іду.
Кляніце, вар'яцейце ад агіды
І спадылба глядзіце—як ваўкі...
Ля ног маіх, забойцы Артэміды,
Пакорна распласталіся вякі.

Над вамі—я. І нам не разлучыцца.
Мне вашы камяніцы—да калень.
Вы ўсе—нішто. Перада мной,
злачынцам,
Хістаецца ваш сцяг — нібыта цень.

Над светам, мітуслівым і кудлатым,
Якому думаць часу нестае,
Я сціснуў у руцэ шалёны атам
І чую, як наўкол прыціхлі ўсе.

Не спіце—хай гады ляцяць, як знічкі...
Запомніце: я з кожным днём мацней,
Гатовы разбураць усё і нішчыць,
Каб слава не пакінула мяне.

•

Развялі нас крутыя дарогі,
І няма ні жальбы, ні нуды.
Толькі часам, як промень дрогкі
З-за аблокаў, мільгнеш мне ты.
І парой ажывуць сярод ночы
У сумятні паяздоў і аўто
Косы белыя, шэрыя вочы
І блакітнае паліто...

•

Вось і ўсё. Дарога закрычала.
Прамільгнулі нема ліхтары.
Цень твой пахіснуўся ля прычала
І згарэў у полымі зары.
За далёкім сінім небакраем
Ластаўкамі ззяюць дні мае...
Толькі там, дзе цень твой дагарае,
Кожным ранкам сонейка ўстае.

### КРОПЛЯ Ў МОРЫ

На свеце ісцін нямала,
Згадзіцеся з думкай такой:
Каб мора не высыхала,
Мала кроплі адной.

Але для стыхіі вольнай
У час штармавых вятроў
Кроплі адной даволі,
Каб выйшла яно з берагоў.

•

Людзі часта жывуць пасля смерці:
Дуба ўрэжа, ды—там і тут
Ходзіць, п'е і да ўлады рвецца
І нярэдка вяршыць свой суд.
Шчэрыць зубы, дае парады
І бясконца рыпіць пяром,
Бо, нібыта, наўкол—беспарадак
І распуста, маўляў, кругом.
Не стамляецца спаць і жэрці,
За падзеямі ледзь бяжыць...

Далібог, не страшна памерці,
Страшна мёртвым на свеце жыць!

# ТВОРЧАЕ ЖЫЦЦЁ АКТЫВІЗУЕЦЦА

— Вялікае свята самадзейнага мастацтва вобласці адбылося ў мінулую нядзелю, — расказаў карэспандэнту начальнік Магілёўскага ўпраўлення культуры П. Давыдаў. — Гэта быў канцэрт пераможцаў абласнога тэлевізійнага агляду-конкурсу, прысвечанага 50-годдзю Краіны Саветаў. У ім удзельнічала больш пяцісот артыстаў-аматараў. Канцэрт — своеасаблівая генеральная рэпетыцыя выступлення самадзейных калектываў Магілёўшчыны—удзельнікаў адборачнага туру Усесаюзнага тэлевізійнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР.

Другая не менш важная падзея—агляд сельскай мастацкай самадзейнасці вобласці. Яго мы прысвячаем таксама паўвекавому юбілею савецкай дзяржавы. Мэта агляду — актывізаваць работу самадзейных калектываў на вёсцы, спрыяць іх творчаму росту, узбагаціць іх рэпертуар, адшукаць новыя таленты. Першы тур агляду аматарскіх калектываў сельскіх клубаў і дамоў культуры завяршаецца. Папярэднія вынікі радуюць нас. Відаць, не знойдзеш раёна, дзе за час агляду не нарадзіліся б новыя гурткі. Нагадаю некалькі прыкладаў. У Быхаўскім раёне ў шасці клубах пачалі працаваць новыя харавыя калектывы. У Бабруйскім раёне створаны новы хор у саўгасе «Гігант», вакальны ансамбль даярак—у саўгасе «Доўгаўскі» Клічаўскага раёна, танцавальныя гурткі—у Восаўскім і Баярскім сельскіх клубах Бабруйскага і Крычаўскага раёнаў. Калектывы гэтыя падрыхтавалі змястоўныя канцэртныя праграмы. Яны з поспехам удзельнічалі ў мясцовых аглядах, многія з іх заваявалі права выступіць на раённых аглядах.

Вядома, што на вёсцы цяжка знайсці кваліфікаванага кіраўніка мастацкай самадзейнасці. Мы шчыра ўдзячны тым музычным школам, якія актыўна памагаюць сельскай мастацкай самадзейнасці. Напрыклад, усе педагогі Мсціслаўскай музычнай школы—даўнія і шчырыя сябры аматарскіх калектываў на вёсцы. Ажывілі работу многіх сельскіх гурткоў выкладчыкі Асіповіцкай, Глускай, Бялыніцкай і іншых музычных школ вобласці.

Наш абласны Дом народнай творчасці нямала робіць, каб сваімі сіламі падрыхтаваць кіраўнікоў сельскіх калектываў мастацкай самадзейнасці. Зараз тут працуе двухгадовая студыя кіраўнікоў лялечных тэатраў.

Адбыўся выпуск слухачоў дзесяцімесячных курсаў па падрыхтоўцы кіраўнікоў сельскай мастацкай самадзейнасці. Калгасы пасылаюць на курсы сваіх людзей, поўнасцю аплачваюць усе выдаткі за іх вучобу. Закончылі курсы 24 харавікі.

Працуюць у нас і месячныя курсы павышэння кваліфікацыі сельскіх работнікаў культуры — загадчыкаў клубаў, дамоў культуры, метадыстаў.

Агляд сельскай мастацкай самадзейнасці паказвае, што актывізуецца творчае жыццё і ў калектывах, якія працуюць у нас даўно. У свой час з поспехам выступаў у Мінску на аглядах вакальны ансамбль Клінскага сельскага клуба Хоцімскага раёна. Яго кіраўнік Кацярына Міронаўна Лавушчанка прыкладае нямала намаганняў, каб трымаць калектыў на добрым творчым узроўні.

Некалькі слоў пра рэпертуар. Змены тут адбыліся адчувальныя. Рэпертуар хору, вакальных ансамбляў, салістаў узбагаціўся творамі беларускіх кампазітараў і мясцовых аўтараў. Песню аб родным краі, напрыклад, напісаў дырэктар Абідавіцкага сельскага Дома культуры Быхаўскага раёна Васіль Шусцікаў. А. Кацнельсон на словы Б. Сандамірскага напісала «Песню пра Глуск». Віктар Балаханаў — кіраўнік народнага хору Слаўгарадскага раённага Дома культуры — вялікі энтузіяст народнай песні. Ён запісаў у сваім раёне нямала цікавых фальклорных твораў. Некаторыя з іх, як «Ой, у гуслі ўдарылі», «Крынічанька», «Па масточку», увайшлі ў рэпертуар сельскіх хораў.

У гэтым кароткім інтэрв'ю я расказаў пра нашу самадзейнасць. Але вядома, што работа клубных устаноў разнастайная. У нагляднай агітацыі, лекцыях і дакладах, тэматычных вечарах шырока адлюстроўваецца знамянальная падзея ў жыцці братніх народаў — 50-годдзе СССР.

**Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Пятру Андрэевічу Харкову з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Міністэрства культуры БССР выказвае спачуванне заслужанай артысткі БССР М. Адамейка з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці сына.**

**Міністэрства культуры БССР выказвае глыбокае спачуванне рэдактару Упраўлення па справах мастацтваў П. Харкову з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора—смерці бацькі.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Міхаілу Шумаву з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці бацькі.**

# АКТУАЛЬНА, ПЕРАКАНАЎЧА, ЦІКАВА

Зараз у «вольным свеце», дзе белыя амерыканцы прыгнятаюць чорных, англічане — ірландцаў, ізраільцяне-ашкеназі — ізраільцян-сефардаў, дзе ў кожным закутку буяе расісцкі чартапалох, — нястомна лямантуюць пра «нацыянальны антаганізм» у СССР. Пра нейкі там прыгнёт, нейкае бяспраўе беларусаў, яўрэяў і каго толькі хочаш. Трубяць праз дзесяткі радыёстанцый, звягаюць у тысячах часопісаў і газет. Псуюць тоны паперы на хлуслівыя даследаванні неіснуючых нацыянальных праблем. Карацей кажучы, антыкамуністы, белаэмігранты, сіяністы — усе яны імкнуцца замініраваць і ўзарваць дружбу савецкіх народаў.

«Мінёры» гэтыя валтузяцца са сваёй нацыяналістычнай узрыўчаткай ужо не адзін, а больш чым пяцьдзесят гадоў. Як жа яны дзейнічалі і дзейнічаюць? Як адрозніць нацыянальнае ад нацыяналістычнага, як распазнаць шавініста і правакатара пад маскай народнага абаронцы? На гэтыя і многія іншыя пытанні, дае пераканаўчыя і ясныя адказы кніга А. Малашкі «Ваяўнічы нацыяналізм — ідэалогія і палітыка імперыялізму».

Актуальнасць нацыянальнага пытання ў сучасных умовах аўтар справядліва тлумачыць тым, што «міжнародная імперыялістычная рэакцыя ставіць цяпер перад сабой задачу — даць камуністам бой у галіне нацыянальнага пытання і выкарыстаць нацыяналізм як адзін са сродкаў для разлажэння сусветнай сацыялістычнай сістэмы, расколу камуністычнага руху, раз'яднання трох асноўных патокаў сусветнага рэвалюцыйнага працэсу і падпарадкавання слабаразвітых краін панаванню манаполій». Таму зразумела, што актуальнай з'яўляецца і сама кніга.

Аўтар яе — гісторык. А гісторыя, гаворачы словамі Карамзіна, ёсць «дополнение, изъяснение настоящего и пример будущего». Вось чаму ў кнізе філасофскі падыход да нацыянальнага пытання грунтоўна падмацоўваецца мноствам цікавых фактаў, якія дапаўняюць і высвятляюць карціну сучаснай ідэалагічнай барацьбы і служаць урокам на будучае.

У першых двух раздзелах кнігі аўтар вядзе размову аб марксісцка-ленінскім вучэнні па нацыянальным пытанні і аб імперыялізме, як галоўнай крыніцы ідэалогіі і палітыкі рэакцыйнага нацыяналізму і шавінізму. Яны вызначаюцца змястоўнасцю і лаканічнасцю. Спынімся на самым большым раздзеле, які займае трэцюю частку кнігі, — «Рэакцыйная сутнасць сіянізму».

Разгляду сіянісцкага руху ў нашай краіне да рэвалюцыі і ў савецкі час А. Малашка нездарма прысвяціў столькі ўвагі. Па-першае, гэта самы нераспрацаваны, самы «цьмяны» момант гісторыі, які да апошняга часу міналі савецкія даследчыкі; па-другое, сіянізм актыўна дзейнічаў у Беларусі, што таксама абыдзена маўчаннем і, па-трэцяе, цяперашняя татальная антысавецкая барацьба сіянізму прымушае нас ведаць праціўніка.

Разглядаючы ўзнікненне сіянізму, аўтар адзначае, што «патрэбна рашуча адкінуць сентэнцыі сіянісцкіх ідэолагаў і іх падгалоскаў у розных краінах аб тым, што сіянізм ёсць адказ яўрэйскіх працоўных мас на антысемітызм і пагромы, што гэта рэакцыя на спрадвечнае праследаванне яўрэяў у хрысціянскіх еўрапейскіх дзяржавах». Ідэалагічныя карэнні сіянізму пачалі расці і спляліся не толькі ў біблейскім шавінізме, але і ў філасофіі Фрыдрыха Ніцшэ. Мы ведаем, што гэту чалавеканенавісніцкую філасофію ўзялі на ўзбраенне фашысты, аднак, падкрэслівае аўтар, «першымі за філасофію Ніцшэ ўхапіліся сіяністы». «Што ж прыцягнула іх у светапоглядзе гэтага філосафа, — пытае аўтар. І адказвае: прыцягнулі нянавісць да «духу рэвалюцыі», да народных мас, да сацыялізма; драпежніцкія прынцыпы антыгуманізму, антыдэмакратызму, цынічнага амаралізму; валюнтарызм, які ў імкненні да ўлады, да панавання над іншымі людзьмі ўгледзеў рухаючую пружыну гістарычнага развіцця; нястрымны індывідуалізм (культ «звышчалавека») як асноўны маральны прынцып для «касты паноў»; пропаведзь драпежніцкай агрэсіі, якая не зважае на нормы права і маралі».

Вось чаму сіянізм і фашызм маюць столькі падабенства — яны карміліся сокамі адной атрутнай філасофіі. Вось чаму заканамерна, што зараз, напрыклад, на старонках адной амерыканскай сіянісцкай газеты разам выступаюць сіяніст Марк Вейнбаўм і антысеміт Юрка Віцьбіч — беларускі прыслужнік Гітлера, які ў час вайны сваёй пісанінай заўзята падтрымліваў звярыны фашысцкі лозунг «юдэн капут». Абодва яны — антыкамуністы.

Сіянізм, з дакументальнай дакладнасцю паказвае нам аўтар, дзякуючы магутнасці яўрэйскай буржуазіі, быў у дарэвалюцыйнай Расіі «з'явай вельмі шматслойнай і разгалінаванай». Яўрэйскі капітал і сіянізм, нягледзячы на пагромы і абмежаванні, раслі і квітнелі на расійскай глебе, у тым ліку і ў Беларусі. Капітал, які б ён ні быў, рэвалюцыя ліквідавала. А барацьба бальшавікоў з сіянізмам, варожасць яконага да новага ладу праявілася з першых дзён рэвалюцыі, зацягнулася на цэлыя дзесяць гадоў.

Актыўнай контррэвалюцыйнай сілай была ў той час, побач з Бундам, сіянісцкая партыя Паалей-цыён. Яна «распаўсюджвала паклёпніцкія выдумкі пра бальшавікоў і Савецкую ўладу... У цэнтры краіны вясной і летам 1918 года паалей-цыяністы каардынавалі свае дзеянні з меншавікамі і эсэрамі па разлажэнні Савецкай улады і падрыхтоўцы яе звяржэння. На акраінах жа разам са сваімі старэйшымі братамі — буржуазнымі сіяністамі супрацоўнічалі з «урадамі» Скарападскага, Пятлюры, Беларускай радай і інш. Своеасаблівасцю тактыкі паалей-цыяністаў на савецкай тэрыторыі было тое, што яны спрабавалі шантажыраваць рабоча-сялянскую ўладу трацкісцкай ідэйкай аб тым, што руская рэвалюцыя загіне, калі не будзе своечасова падтрымана сусветнай рэвалюцыяй. А «падняць сусветны пралетарыят можа толькі яўрэйскі пралетарыят», які павінен стаць авангардам сусветнай рэвалюцыі. Размовы аб «сусветнай рэвалюцыі», аб асобай місіі ў ёй яўрэйскага пралетарыяту патрэбны былі як «дымавая заслона», каб бесперашкодна праводзіць па ўсёй краіне збор сродкаў для каланізацыі Палесціны і падтрымкі антысавецкага руху».

З цікавасцю мы чытаем старонкі аб тым, як створаная ў 1919 годзе ў Гомелі так званая Яўрэйская камуністычная партыя імкнулася ажыццявіць чужымі рукамі тое, што завяшчаў сіяністам Тэадор Герцль. «Па-першае, яна патрабавала падтрымаць яе дзейнасць у Палесціне, дзе сіяністы стваралі «яўрэйскі ачаг» і дзе дзейнічалі арганізацыі екапістаў. Для гэтай мэты ЯКП спрабавала паэксплуатаваць ідэю сусветнай рэвалюцыі. У праграмных дакументах гэтай партыі, у яе друку, адозвах і лістоўках развівалася канцэпцыя аб тым, што адраджэнне Усходу магчыма толькі шляхам яго каланізацыі. Уезд яўрэйскіх рабочых у Палесціну яны спрабавалі прадставіць як фактар «абуджэння Усходу і прыцягнення яго да камуністычнай культуры». Маўляў, толькі ў саюзе з яўрэйскімі пралетарскімі масамі арабы здолеюцьператварыць Месапатамію, Сірыю і Палесціну ў «райскі куток» і адрадзіць гэтыя краіны як культурныя цэнтры, вярнуць ім былую веліч». Больш таго, сіяністы, пераапранутыя ў камуністычную вопратку, ішлі, так сказаць, на глабальны падман — прапаноўвалі Камінтэрну заняцца адборам яўрэйскіх «ударнікаў», спецыялістаў у розных галінах прамысловасці, каб стварыць з іх «сацыялістычны працоўны калектыў у Палесціне».

Не драмалі яны і ўнутры краіны. Ставячы задачу ажыццявіць «яўрэйскі Кастрычнік», яны імкнуліся падпарадкаваць свайму ўплыву ключавыя галіны эканомікі, стварыць «аўтаномнае яўрэйскае грамадства», яўрэйскія Саветы і г. д. Беларусь, згодна з іх задумай, павінна была «стаць цэнтрам не толькі беларускай, але і яўрэйскай культуры». (газета «Млот» за 17 кастрычніка 1924 года). На Усебеларускай канферэнцыі ЯКП, якая адбылася ў студзені 1921 года, было прынята рашэнне пакрыць усю БССР сеткай прафтэхвучылішч і курсаў для дарослага яўрэйскага насельніцтва. У Мінску планавалася адкрыць яўрэйскі (!) універсітэт.

У 20-я гады сіяністы ў Беларусі дзейнічалі таксама і ў падполлі. Падрыўную антысавецкую работу вялі сіяністка-сацыялістычная партыя, «Цэірэ-цыён» (маладзёжная арганізацыя), аб'яднанне «Гэхалуц», арганізацыя скаўтаў «Гашамер Гацаір».

Сіянізм у нашай краіне ўрэшце пацярпеў крах. Яўрэйскія масы былі вырваны з-пад яго ўплыву. Аднак гэта не азначае, што сіяністы адмовіліся ад антысавецкай і антыкамуністычнай барацьбы. Яна не спынялася ніколі — мяняла толькі формы. Зараз, напрыклад, сіяністы вядуць татальнае наступленне супраць Краіны Саветаў. Разабрацца ў іх стратэгічных мэтах і ў прыёмах падрыўной работы нам дапамагае кніга А. Малашкі.

**Ул. БЯГУН.**

А. Малашка. «Ваяўнічы нацыяналізм — ідэалогія і палітыка імперыялізму». На рускай мове. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971.

# І ВЫДУЖАЛІ ХЛОПЦЫ...

Апавесць І. Сяркова «Мы — хлопцы жывучыя» (працяг кнігі «Мы з Санькам у тыле ворага») адзначана першай прэміяй на ўсесаюзным конкурсе па дзіцячай літаратуры. Гэта яшчэ раз пацвердзіла, што ў беларускую дзіцячую літаратуру прыйшоў таленавіты пісьменнік.

Кніга І. Сяркова — твор аб мужнасці і гераізме трынаццацігадовых падлеткаў і іх бацькоў, аб верным сяброўстве і першым каханні, аб пасталенні душы і загартоўцы характару.

Аповесць «Мы — хлопцы жывучыя» вылучаецца праўдзівасцю, тонкай псіхалагічнай дакладнасцю характараў герояў, нацыянальным каларытам і гумарам.

Па-сапраўднаму выхоўвае тая дзіцячая кніга, дзе аўтар не павучае юнага чытача, а ў поўную меру сваіх пачуццяў жыве ў створанай ім рэчаіснасці. Менавіта гэтым вылучаецца аповесць І. Сяркова. Аўтар сам перажыў тыя пакуты, якія выпалі на долю яго герояў. Яго твор поўніцца чыстым, свежым, народным светаўспрыманнем, усведамленнем таго, што ў грамадзе, разам з усім народам, лягчэй перажыць нягоды ваеннага ліхалецця, цяжкасці пасляваенных дзён. Сама назва «Мы—хлопцы жывучыя» сведчыць аб глыбокім, невычэрпным аптымізме, якім прасякнута кожная старонка аповесці.

Распрацоўваючы асновы тэорыі савецкай дзіцячай літаратуры, А. Макаранка пісаў: «У нашай кнізе павінна быць вельмі многа энергіі, смеху, гарэзлівасці — усё гэта цудоўныя дзіцячыя якасці, якія сведчаць аб сіле характару, яго мажорнасці, яго ўстойлівасці і калектывізме. Наша кніга павінна быць ярка жыццярадаснай». Менавіта такой энергічнай, вясёлай, жыццярадаснай атрымалася кніга І. Сяркова, хаця гутарка ў ёй часта вядзецца аб рэчах не толькі невясёлых, а нават трагічных у сваёй сутнасці.

Вось памёр дзядзька Андрэй, той самы, што ўсё глытаў свой кадык і любіў вучоныя словы. Памёр ад сыпняку ў гарадской бальніцы, і трэба прывезці яго адтуль, і няма каму гэта зрабіць. Цётчыны дзеці малыя і хворыя, і выходзіць, што трынаццацігадовы Іван — адзін мужчына на ўсю радню. Знясілены ад кашлю і голаду, хлопчык тузае лейцы, кволае і непадкаванае жарабя коўзаецца ад натугі. А на двары ноч, завіруха...

Дарослую адказнасць адчувае Іван перад цёткай, якая з малымі дзецьмі засталася без хаты. І хоць наперадзе Сож, і невядома, як прыйдзецца пілаваць і цягнуць на сабе тыя бярвенцы, але ён не можа адступіцца ў сваёй рашучасці памагчы цётцы...

Санькава маці атрымала пахаронку, вялікае гора не можа праліцца слязамі, калючы камень перасеў у горле. Саньку таксама не да гуляў, ён незвычайна маўклівы, засяроджаны — думае пра жыццё...

Так, час суровы, і, хочаш не хочаш, трэба падмяняць дарослых. У гарачым імкненні дапамагчы старэйшым, у сваёй самаахвярнасці хлопчыкі ўзвышаюцца да сапраўднага гераізму. Але ні на адну хвіліну не губляюць яны дзіцячай непасрэднасці, шчырасці, дапытлівасці і гарэзлівасці. Ім цікава паглядзець на збіты нямецкі самалёт, а калі замест яго яны знаходзяць спалоханага стрыгунка, дык і гэта вельмі добра: можна песціць яго і дагледзець. Цікава высачыць таямнічага ваўкалака (можна толькі парадавацца, як арганічна ўвайшоў займальна-прыгодніцкі элемент у тканіну аповесці) і першымі абвясціць на ўсё сяло вялікую радасць. Вельмі хочацца ўволю пад'есці, і зусім па-дзіцячы яны мараць: «Вось было б добра, каб паднялася адна дошка і ў дзірку з гарышча зваліўся на печ мяшок з такімі булкамі, якія прыносіла калісьці да вайны маці з горада».

Лёс Вані і Санькі—гэта лёс многіх савецкіх дзяцей, маленства якіх было апалена вайной, якім не па гадах рана прыйшлося сталець. Але Санька і Іван не з тых, хто вешае нос: няма мукі і бульбы—сыдзе і боб, няма добрых штаноў—зносяць і перашытыя з нямецкай адзежыны.

Сябры растуць на нашых вачах: зноў ходзяць у школу, без прычыны задзіраюць дзяўчат, не разумеючы яшчэ, што так абуджаецца першае пачуццё, рыхтуюцца да ўступлення ў камсамол...

Логіка дзіцячых характараў, жывых і абаяльных, не парушана. Героям аповесці заўсёды верыш і развітваешся з імі, як з лепшымі сябрамі.

Заслугай аўтара трэба лічыць той факт, што ён не проста стварыў вобразы станоўчых герояў-аднагодкаў чытача, а здолеў даць узор стойкасці, штодзённага сапраўднага гераізму, сяброўскай вернасці. У гэтым сэнсе героі І. Сяркова—прыклад для сучасных дзяцей.

З вялікім тактам і пачуццём меры расказаў пісьменнік і пра першае каханне, без якога цяжка ўявіць юнацтва. Звычайна аўтары кніг для дзяцей стараюцца абысці гэтае пытанне або гавораць аб каханні вельмі асцярожна, нібы баючыся, што іх не так зразумеюць. Але вядома, што дзецям можна гаварыць пра ўсё, справа толькі ў тым, як гаварыць.

Характары дарослых выпісаны таксама ярка і жыва. Асабліва ўдаўся вобраз бабкі Матроны Яўсееўны, чалавека вялікай душы, разумнай, працавітай, разважлівай кабеты, якая ніколі не траціць пачуцця ўласнай годнасці, надзеі на лепшае.

Адзіны папрок, які можна зрабіць аўтару — гэта не вельмі пераканаўчы вобраз бацькі Івана і крыху згладжаная, не дужа арыгінальная канцоўка аповесці.

**П. ЛЯВОНАВА,**
**Т. КУЦАНАВА.**

І. Сяркоў. «Мы—хлопцы жывучыя». Мінск, выдавецтва «Беларусь», 1971.

НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ



Малюнкі мастака Г. Грака да кнігі «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Ул. Караткевіча, якая выходзіць у выдавецтве «Беларусь».

# СПЯВАЮЦЬ ТРУБЫ ПРА РАДЗІМУ

**ПЕРШЫ РЭСПУБЛІКАНСКІ КОНКУРС ДУХАВЫХ АРКЕСТРАЎ ПРАФСАЮЗАЎ**

У ФАЕ рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў, у яго калідорах, гардэробах, на вішнёвых аксамітных крэслах глядзельнай залы ляжаць, паблісквaючы, музычныя інструменты. Жоўтымі крэндзелямі разлегліся валторны, царгарматамі выглядаюць жэралы геліконаў, элегантнай чорнай лёскай прыхіліўся да спінкі крэсла кларнет, срэбнай змейкай выцягнулася флейта. Некаторыя інструменты пабывалі ўжо на сцэне палаца і цяпер адпачываюць тут, іншыя толькі чакаюць «свайго выхаду». Іх клапатліва даглядаюць — праграюць, працiраюць — рупныя гаспадары. У кожнага на грудзях значок: «Першы рэспубліканскі конкурс духавых аркестраў прафсаюзаў».

Два дні — 7-га і 8-га кастрычніка — гэты конкурс праходзіў на сцэне палаца. Больш дакладна — яго трэці, заключны тур. Першыя ж этапы — гарадскія, сельскія, раённыя, абласныя конкурсы — пачалі праводзіцца яшчэ летась. Вось што расказаў нашаму карэспандэнту адказны сакратар Усесаюзнага конкурсу духавых аркестраў прафсаюзаў Дзмітрый Белабародаў:

— Ініцыятары гэтага музычнага спаборніцтва — Цэнтральны савет прафсаюзаў і Саюз кампазітараў СССР — вырашылі не праводзіць заключнага міжрэспубліканскага тура, а арганізаваць шырокі ўсесаюзны фінал. Гэта, на наш погляд, дапаможа лепш вырашыць галоўную задачу конкурсу — папулярызацыю духавой музыкі. Такім чынам, гарадамі, дзе праводзіцца фінал усесаюзнага конкурсу, сталі чатырнаццаць сталіц саюзных рэспублік і сем гарадоў Расійскай Федэрацыі. Пераможцы гэтых рэспубліканскіх і занальных конкурсаў адначасова робяцца лаўрэатамі ўсесаюзнага. Галоўнае журы, якое ўзначальвае кампазітар Ціхан Хрэннікаў, і арганізацыйны камітэт пад кіраўніцтвам кампазітара Андрэя Эшпая ўзнагародзяць іх дыпломамі...

З усіх куткоў рэспублікі з'ехаліся ў Мінск музыканты - аматары: рабочыя і студэнты, тэкстыльшчыкі і машынабудаўнікі, чыгуначнікі і калгаснікі. За некалькі месяцаў, калі адбываліся папярэднія этапы конкурсу, у ім прынялі ўдзел 207 аркестраў і 3 646 музыкантаў-аматараў. І вось — заключны канцэрт. Па-рознаму праходзілі такія канцэрты ў іншых гарадах краіны. У Кіеве лепшыя аркестры прайшлі па Крашчаціку марш-парадам, у Калузе яны выступілі ля помніка Цыялкоўскаму. Сталіца Беларусі аддала самадзейным музыкантам сваю галоўную сцэну — сцэну опернага тэатра. Тут выступілі аркестры, якіх прызнала лаўрэатамі журы. У яго складзе кампазітары, заслужаныя дзеячы мастацтваў Ю. Семяняка (старшыня) і Д. Камінскі, народны артыст БССР Б. Пянчук, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР К. Паплаўскі, заслужаны артыст БССР А. Майзлер і іншыя вядомыя дзеячы музычнай культуры.

Вось гучыць мелодыя песні А. Пахмутавай «Арляняты вучацца лётаць». Яе выконвае дзіцячы духавы аркестр Барысаўскага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Дзеці іграюць старанна, з асалодай. Адчуваецца, што аркестр для іх — не проста чарговае дзіцячае захапленне. Можа ўзнікнуць пытанне: чаму ў канцэрце лепшых прафсаюзных калектываў прымаюць удзел юныя музыканты? Справа ў тым, што рэспубліканскі арганізацыйны камітэт, прыняў вельмі правільнае рашэнне. У конкурсе побач з аркестрамі калгасаў, прадпрыемстваў, устаноў маглі выступаць і школьныя, дзіцячыя калектывы. Лепшым дзіцячым духавым аркестрам Беларусі быў названы аркестр з Барысава пад кіраўніцтвам І. Вайніловіча.

А цяпер на сцэне — людзі ў шэрых мундзірах з эмблемай чыгуначнікаў. Гучыць «Фантазія на тэмы дарожных песень І. Дунаеўскага». Выканаўца—аркестр Палаца культуры чыгуначнікаў Гомеля. Гэты калектыў, якім кіруе Ю. Ягудкін, вылучаецца вялікім, сталым майстэрствам. Нездарма аркестр носіць званне народнага. Такія ж высокія якасці выканання характэрны для аркестраў Мінскага радыёзавода (кіраўнік А. Голад) і Магілёўскага завода «Строммашына» (дырыжор Т. Гурэвіч). У іх выступленнях было прадумана літаральна ўсё: і спецыяльная форма, і правільнае размяшчэнне музыкантаў на сцэне, і цікавая складаная праграма. Добрая сыгранасць, высокая тэхніка дае магчымасць гэтым калектывам іграць творы Бізэ, Глінкі, Чайкоўскага, Шастаковіча. Словам, журы нездарма назвала гэтыя два аркестры лепшымі аркестрамі беларускіх прафсаюзаў. Лаўрэатамі конкурсу сталі аркестры Віцебскага абласнога савета прафсаюзаў, Брэсцкага электрамеханічнага завода. Лепшым дырыжорам прызнаны Т. Гурэвіч. Яму было дадзена права прадырыжыраваць зводным духавым аркестрам прафсаюзаў, выступленне якога завяршыла канцэрт.

Першы рэспубліканскі конкурс духавых аркестраў прафсаюзаў закончаны. Гэта было не толькі музычнае спаборніцтва, але і вялікая школа для яго ўдзельнікаў. Несумненна карыснымі для кіраўнікоў будуць тыя заўвагі, якія зрабілі члены журы на разборах конкурсных выступленняў; перад музыкантамі-аматарамі выступіў з вялікім канцэртам аркестр штаба ЧБВА. А ў кулуарах, як гэта звычайна бывае на конкурсах, ішлі спрэчкі. Тут узнімаліся самыя розныя пытанні: і пра неабходнасць стварыць гарадскі духавы аркестр у Мінску, які мог бы выступаць з канцэртамі, і пра недастатковую колькасць твораў беларускіх кампазітараў для духавога аркестра, і пра адсутнасць нот. Словам, тэм для сур'ёзнай, важнай размовы дастаткова. Было б добра, калі б такая размова адбылася і на старонках друку.

**Б. ГЕРСТАН.**



Фінальная сцэна заключнага канцэрта Рэспубліканскага конкурсу самадзейных духавых аркестраў прафсаюзаў Беларусі.

Фота Ул. КРУКА.

# УРАЖАННІ ДОБРЫЯ... І РОЗНЫЯ

ЛЕНІНГРАДСКУЮ дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу імя М. Глінкі добра ведаюць аматары харавога спявання. Гэта адзін са старэйшых творчых калектываў, які мае сваю багатую гісторыю, носьбіт высокіх традыцый рускай выканаўчай культуры. Кіраўнікамі яе ў мінулым былі Д. Бартнянскі, М. Балакіраў, М. Глінка, М. Рымскі-Корсакаў, у савецкі перыяд — выдатныя майстры харавой культуры М. Клімаў, А. Свешнікаў, Г. Дзмітрэўскі.

Адметнымі рысамі капэлы заўсёды былі высокае майстэрства, інтанацыйная і рытмічная бездакорнасць, чысціня і прыгажосць гуку, пластычнасць і гнуткасць дыхання. У сучасны момант (вось ужо каля 14 гадоў) капэлай кіруе Ф. Казлоў.

Ці захавала капэла лепшыя свае традыцыі? Ці пацвярджае яна зараз сваю рэпутацыю лепшага харавога калектыву?

Праграма двух канцэртаў, з якой хор пазнаёміў мінчан, уключала творы розных аўтараў, эпох і стагоддзяў. Гэта Вялікая імша до-мажор В. Моцарта, духоўныя канцэрты Д. Бартнянскага, «Кіеўскі распеў» і «Ціхая мелодыя» С. Рахманінава, «Венецыянская ноч» М. Глінкі, а таксама творы сучаснай савецкай музыкі: «Лябёдушка» — канцэрт для хору В. Салманава і «Песні, што вырваліся з пекла» А. Фляркоўскага.

У першым канцэрце была выканана Вялікая імша Моцарта. Жанр імшы ў значнай меры вызначыў кола магчымых эмоцый, характар музычнай мовы. Але, слухаючы гэту музыку, менш за ўсё думаеш аб яе культавым значэнні. Яна ўражвае сваёй меладычнай выразнасцю, глыбінёй выказаных пачуццяў, сваім усхваляванастрасным характарам.

Вялікая імша — твор манументальны, складаны па форме і па вакальнай тэхніцы і патрабуе вялікага выканаўчага майстэрства. Трэба сказаць, што капэла ў цэлым даволі паспяхова справілася з цяжкай задачай, якую ставіла перад ёй складаная культура імшы. Нягледзячы на строгую акадэмічную манеру выканання, хору ўдалося перадаць стыль твора, раскрыць глыбіню і чалавечнасць музыкі Моцарта. Сапранавую партыю выдатна выканала Ю. Антонава.

Вялікая заслуга ў выкананні імшы належыць дырыжору М. Рабіновічу. Гэта ўдумлівы і глыбокі музыкант. Жэст яго гранічна лаканічны і скупы, пазбаўлены ўсялякіх знешніх эфектаў. Аднак ён «чуе» форму. Менавіта яго заслуга, што ў выкананні гэтага твора буйнай формы (з яго вялікай колькасцю кантрастных частак) увесь час адчуваецца архітэктоніка цэлага.

У другім канцэрце выконвалася сольная праграма капэлы.

Спяванне а капэла — адна з галоўных асноў харавой культуры. Менавіта яно з'яўляецца паказчыкам творчага аблічча калектыву, яго выканаўчага майстэрства. Таму на сольны канцэрт я ішла з асаблівай цікавасцю. Уражанні засталіся самыя розныя.

Бадай, найбольш удаліся хору духоўныя канцэрты Д. Бартнянскага, «Кіеўскі распеў» і «Ціхая мелодыя» С. Рахманінава. Магчыма, тут на дапамогу прыйшла жывая яшчэ традыцыя і багаты творчы вопыт у выкананні гэтых жанраў. Выкананне вылучалася глыбокім адчуваннем стылю, узгодненасцю гучання, стройнасцю ансамбля. Хор гучыць строга, пранікнёна і роўна.

Свае светлыя тэмбравыя і дынамічныя фарбы былі знойдзены хорам і ў «Венецыянскай ночы» Глінкі.

Намнога горшае ўражанне засталося ад выканання твораў В. Салманава і А. Фляркоўскага.

Паэма-кантата «Песні, што вырваліся з пекла» А. Фляркоўскага (на вершы афрыканскіх паэтаў) — глыбока драматычны твор, складаны ў інтанацыйных і рытмічных адносінах. Музыка яго абавязвае да гранічнай сабранасці, дакладнага адчування рытму. Між тым, выкананне яго капэлай паказала неабходнасць тэхнічнай дапрацоўкі.

Не зусім пераканала і выкананне «Лябёдушкі» В. Салманава. У творы выкарыстаны народныя паэтычныя тэксты з іх ты повай лексікай, зваротамі і метафарамі. Нацыянальны і інтанацыйны лад музыкі, у аснове якой — працяглая песня, галашэнне. Гэтыя якасці музыкі Салманава патрабуюць і асаблівай манеры выканання, блізкай народнаму стылю. Хор выканаў «Лябёдушку» крыху стрымана, акадэмічна, а хацелася б большай яркасці і разнастайнасці фарбаў, большай эмацыянальнай выразнасці, асабліва ў другой частцы («Ветры буйныя») з яе дынамізмам, тэмбравымі эфектамі, элементамі гукамаляўнічасці. Што датычыць тэхнічнага боку гучання, то і тут не ўсё было на высокім узроўні: не хапала чысціні гучання, выкананне не заўсёды было зладжанае і багатае каларыстычнымі адценнямі. І наогул, гучанне капэлы не заўсёды задавальняе. У радзе выпадкаў адчуваецца недакладнасць інтанацыі, нескаардынаванасць груп хору, недастатковая адшліфаванасць дыкцыі, часам адсутнасць ансамбля, вакальная стракатасць (гэта больш за ўсё датычыць партыі сапрана).

Усе гэтыя прыкрыя тэхнічныя пагрэшнасці — не дробязь, да якой можна прыцярпецца. Яны зніжаюць уражанне ад выкананых твораў, перашкаджаюць поўнаму і пераканаўчаму ўвасабленню аўтарскай задумы. Між іншым, эмацыянальнае разуменне музыкі абавязкова павінна абапірацца на высокую творчую культуру і тэхнічнае майстэрства. Толькі ў гэтым выпадку нараджаецца тое высокае мастацтва, якое абавязкова прымушае слухача пранікнуцца перажываннем аўтара, якое стварае нябачныя токі паміж выканаўцамі і слухачом. Такое высокае мастацтва вызначала капэлу Клімава і Дзмітрэўскага. Ф. Казлоў — таленавіты дырыжор, чуйны музыкант, тонкі знаўца музычнага мастацтва. І ў яго ёсць усе падставы, каб захаваць і ўмацаваць за капэлай яе званне лепшага харавога калектыву.

**А. ВАЛАДКОВІЧ,**
аспірантка Беларускай кансерваторыі.

# ПРАЦЯГ ЗНАЁМСТВА

Сярод першых канцэртаў філарманічнага сезона ўвагу прыцягнулі сваёй праграмай маладыя музыканты, лаўрэаты міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў у Мюнхене Аляксандр Бандуранскі (фартэпіяна), Міхаіл Бязверхні (скрыпка) і Мірон Ямпольскі (віяланчэль).

Гэты ансамбль арганізаваўся ў Маскоўскай кансерваторыі, у класе камернага ансамбля в. а. прафесара Т. Гайдамовіч. Выдатнае інструментальнае майстэрства кожнага ўдзельніка, несумненна, паслужыла добрай базай для стварэння ансамбля. Але стварэнне адзінага музычнага арганізма, з поўным супадзеннем намераў, агульным разуменнем задач, патрабавала карпатлівай працы саміх музыкантаў і іх кіраўніка.

Тэмпераментная эмацыянальнасць, парывістасць А. Бандуранскага, прыгажосць, гукавая вытанчанасць М. Бязверхняга, ураўнаважанасць і спакойная ўпэўненасць М. Ямпольскага, сплятаючыся, ствараюць цудоўны ансамблевы сплаў.

Манументальныя Трыо сі-бемоль мажор Ф. Шуберта і Трыо «Памяці вялікага артыста» П. Чайкоўскага, якія выконваліся ў канцэрце, нягледзячы на іх непадабенства, прасякнуты песенным пачаткам, вызначаюцца канкрэтнасцю музычных вобразаў, абодвум уласцівы інтымны лірызм. Несумненна, што гэтыя рысы прыцягнулі музыкантаў, і выбар яго быў невыпадковы.

Уменне «спяваць», валоданне кантыленай з'яўляецца адным з вартасцей ансамбля, а грандыёзнасць твораў дазволіла паказаць выканаўчае майстэрства, выдатнае пачуццё формы.

У Трыо Шуберта найбольшае ўражанне пакінула выкананне другой часткі. Запомніліся цеплыня і абаяльнасць гучання, шырыня дыхання, вакальная выразнасць струнных інструментаў. Скерца і фінал былі сыграны лёгка, натуральна, прыгожа, але, бадай, па стылі некалькі бліжэй да «венскай класікі», чым да рамантыкі. А Трыо — адзін з апошніх твораў Ф. Шуберта, калі ён ужо адышоў ад традыцый класікі.

У другім аддзяленні выканаўцы захапілі ўвагу слухачоў з першых жа тактаў Трыо Чайкоўскага. Хацелася б адзначыць дакладнае эмацыянальнае адчуванне музычных вобразаў Трыо: глыбокі смутак галоўнай партыі, валявы пачатак першага элемента пабочнай партыі, усхваляваную лірыку другога, напеўнасць тэмы варыяцый, а таксама жанравую разнастайнасць і цэласнасць варыяцыйнага цыкла. Хацелася б падкрэсліць асобна, што П. Чайкоўскі ў пісьме да Н. фон Мек пісаў: «...баюся, ці не ёсць гэта сімфанічная музыка, толькі прыладжаная да трыо».

Менавіта сімфанічнай маштабнасцю вызначалася выкананне маладых музыкантаў.

Трэба адзначыць некаторае захапленне піяніста хуткімі тэмпамі ў асобных варыяцыях.

Сыграныя на «біс» творы Р. Шумана, В. Моцарта, М. Равеля пашырылі ўяўленне аб творчых магчымасцях трыо, паказалі, што выканаўцы выдатна валодаюць стылем кампазітараў розных эпох. Асабліва запомнілася другая частка Трыо М. Равеля, якую яны сыгралі з віртуозным бляскам.

Гэты канцэрт быў другім выступленнем маладога ансамбля ў Мінску. У лютым разам з сімфанічным аркестрам яны выканалі Трайны канцэрт Бетховена. Зараз знаёмства прадоўжылася. Будзем спадзявацца, што мы яшчэ не раз сустрэнемся з таленавітым калектывам.

**В. ЗЯЛЕНІН.**

НА ЗДЫМАЧНЫХ ПЛЯЦОЎКАХ

## БОЛЬШ ЧЫМ ЦЯРПЛІВАСЦЬ



Неўзабаве ажыве на экранах знаёмае з дзяцінства мышаня Пік—герой казкі В. Біянкі, па матывах якой цяпер на «Беларусьфільме» ў аб'яднанні «Летапіс» здымаецца каляровы фільм-казка. «Прыгоды мышаняці» — так будзе называцца гэтая стужка. Аўтар сцэнарыя, рэжысёр і аператар — Віктар Шаталаў, знаёмы ўжо нам па фільмах «Першыя ноты», «Вакол свету на сваім караблі», «Цёплы летні дождж» і іншыя. Мастак і стваральнік «натуры»—Ю. Папоў, кансультант—В. Янушэўскі.

Фільм гэты незвычайны. Незвычайны ўжо таму, што герой яго — жывое мышаня, якое трапляе ў розныя нечаканыя для яго сюжэтныя абставіны і павінна адпаведным чынам сябе паводзіць. Мышаня-артыст. Але як кіраваць ім? Здымаць у натуральных умовах, зразумела, немагчыма. Таму трэба будаваць акварыумы, вальеры і іншыя канструкцыі, якія нават не маюць назваў. Усё гэта неабходна для таго, каб мышаня адчувала сябе як на волі. А колькі трэба цярплівасці і настойлівасці, каб зняць эпізод, які потым толькі мільгане на экране.

Так склаўся лёс мышаняці, што яму давялося паблукаць па белым свеце. Спачатку ўсё было добра. У яго былі маці, браты, сёстры. Яго любілі, яно спала ва ўтульным цёплым гняздзечку. І раптам... Бура, бура! Мышаня, канечне ж, не ведала, што караблік, на які яно трапіла, панясе яго па ўсім свеце... Хто мог падумаць, што свет такі вялікі і ў ім столькі хцівых, злосных звяроў? Сустрэча са змяёй —які жах! Яна ледзь не схапіла яго. Выратаваў толькі цуд, як і тады, калі давялося трапіць на вочы рыжай лісы альбо ў чмялінную норку.

Вельмі страшэнны і жорсткі свет, у які трапіў маленькі, не прыстасаваны да жыцця звярок. І хто ведае, што было б, калі б не сустрэўся чалавек. Дзеці выратавалі мышаня, пабудавалі яму домік.

Такі сюжэт фільма.

Мы ў павільёне студыі, здымаецца пачатак фільма. Прыгожы, ціхі, сонечны дзень, калі мышы (героі стужкі—усурыйскія мышкі-малюткі) чакаюць папаўнення сямейства, робяць свае гнёзды. На здымкі гэтага эпізода давялося затраціць больш месяца (па плане — адзін здымачны дзень). Трэба было пераканаць мышэй менавіта ў гэты час віць гнёзды. А як? Чаго толькі не рабілі! Каб умовы былі блізкія да натуральных, устанавілі вентылятары — ветры, электрычныя лямпачкі — сонца і г. д. і г. д. Нарэшце мышы звілі гняздо. Але якраз, калі аператар (ён жа рэжысёр і сцэнарыст) спаў. Давялося ўсё разбурыць. Вядома, цяжка здымаць фільм, калі ў ім дзейнічаюць сапраўдныя артысты і ўсё навокал сапраўднае. Але каб зняць фільм са звычайным не дрэсіраваным мышанём, трэба мець больш чым цярплівасць, больш чым нервы і быць больш чым улюбёным у тое, што робіш.

І. ПІСЬМЕННАЯ.

## ШТО ПІШУЦЬ ПРА НАС

### ВЕРШЫ БАГДАНОВІЧА ПА-ПОЛЬСКУ

*У часопісе «Літаратура на свеце», які нядаўна пачаў выдавацца ў Варшаве з мэтай прапаганды ў краіне лепшых дасягненняў сусветнай культуры, змешчана нізка вершаў Максіма Багдановіча. Вершы «Пагоня» і «Дзед» пераклаў Тадэвуш Хрусцялеўскі, «Вадзянік» і «Белым кветам адзета каліна»— Ян Гушча.*

### БЕЛАРУСКІ МАЙСТАР ЭКСЛІБРЫСА

*Так называе польскі часопіс «Пшыязнь» нашага мастака Яўгена Ціхановіча. У артыкуле з гэтай назвай Анджэй Кемпа піша: «Разнастайнасць пластычнай тэхнікі і дакладнасць штрыха сталі прычынай вялікай папулярнасці экслібрысаў Я. Ціхановіча, якія былі аздобай міжнародных выставак у Японіі і Венгрыі, не гаворачы ўжо аб шматлікіх выстаўках на тэрыторыі Савецкага Саюза... Для яго неабыякавы беларускі фальклор, гістарычнае мінулае краіны і дынаміка яе сучаснага развіцця».*

*А. Кемпа паведамляе, што ў Лодзі рыхтуецца выстаўка ста экслібрысаў Я. Ціхановіча.*

### ДАСКАНАЛЫЯ МУЗЫКАНТЫ

*Выступленне беларускага ансамбля «Песняры» на фестывалі песні ў Сопаце атрымала шырокі рэзананс і вельмі добрыя водгукі ў прэсе.*

*«Сенсацыяй аказаўся беларускі калектыў «Песняры», — адзначае часопіс «Пшыязнь». — Сваім выступленнем ён прадэманстраваў рэдкую гармонію галасоў, вялікія магчымасці, вакальную культуру і значную разнастайнасць стыляў, з якіх, на нашу думку, яшчэ не зрабіў выбару... Беларуская група была прыемнай неспадзяванкай».*

*Часопіс «Панарама»: «Беларускі ансамбль «Песняры» прадэманстраваў нам цікавую музыку, у стварэнні якой асноўным элементам натхнення быў родны фальклор».*

*Аглядальнік славацкага часопіса «Свет сацыялізма» М. Сячкоўскі: «Мне асабіста вельмі спадабалася савецкая вакальная група «Песняры».*

## «БЕЛОРУСИЯ—БЯЛА БАЛАДА»

### ТРЫ ДНІ Ў БАЛГАРЫІ

У канцы жніўня — пачатку верасня гэтага года мне давялося быць удзельнікам чарговай сустрэчы-сімпозіума перакладчыкаў балгарскай мастацкай літаратуры, якая праводзілася ў Балгарыі — у Варне і Сафіі. Саюз пісьменнікаў Балгарыі запрасіў на сустрэчу каля пяцідзесяці перакладчыкаў і славістаў з 18 краін свету. Акрамя прадстаўнікоў Савецкага Саюза і сацыялістычных краін, на сімпозіуме былі перакладчыкі балгарскай літаратуры з Францыі, Японіі, ЗША, Фінляндыі, Нідэрландаў, Нарвегіі, Сірыі, АРЕ, Іракa і іншых краін.

Асноўнай тэмай такой прадстаўнічай сустрэчы было шырока і падрабязна азнаёміць ўсіх гасцей з апошнімі дасягненнямі балгарскай мастацкай літаратуры ва ўсіх яе жанрах, даць уяўленне аб асноўных кірунках літаратурнага працэсу ў сучаснай Балгарыі, супаставіць гэтыя кірункі са з'явамі ў суседніх літаратурах балканскіх краін і ў літаратурах іншых краін сацыялізма. Трэба адзначыць, што арганізатары сімпозіума вельмі ўдала расплanaвалі рабочы час: акрамя лекцый, гутарак, інтэрв'ю і сустрэч, была магчымасць канкрэтнага знаёмства з усімі навінкамі сучаснай балгарскай мастацкай літаратуры, пра якія гаварылася на пасяджэннях.

Тры найбольш значныя, важныя падзеі вызначалі напрамак грамадскага і літаратурна-мастацкага жыцця ў Балгарыі ў апошні час: XXIV з'езд КПСС, X з'езд Камуністычнай партыі Балгарыі і святкаванне 80-годдзя з дня першага з'езда балгарскіх камуністаў. І таму адна з асноўных праблем сучаснай балгарскай прозы, паэзіі, драматургіі, літаратурнай крытыкі — гэта выразнае асэнсаванне і адлюстраванне сучаснасці, стварэнне яркага, шматграннага вобраза сучасніка, будаўніка новай Балгарыі. Актыўна працавалі ў гэтым напрамку такія вядомыя балгарскія пісьменнікі, як Камен Калчаў, Андрэй Гуляшкі, Стаян Ц. Даскалоў, Ілія Волен, Генча Стоеў, Колю Геаргіеў, Дзіко Фучаджыеў, Серафім Северняк, Донча Цончаў, Радаслаў Міхайлаў і іншыя. У кожнага з іх, вядома, свае тэмы, свая творчая індывідуальнасць. Калі Стаян Ц. Даскалоў, Ілія Волен, Радаслаў Міхайлаў аддаюць перавагу «традыцыйнай» сельскай тэме, дык у цэнтры новых кніг Генчы Стоева, Серафіма Северняка, Донча Цончава—вобраз сучаснага рабочага, праблемы станаўлення яго характару, яго духоўны свет, яго ўзаемаадносіны з грамадствам. Духоўнае жыццё сучаснай інтэлігенцыі, фарміраванне яе ідэйнага светапогляду ў сутыкненні розных плыняў і напрамкаў—усё гэта выяўляе Андрэй Гуляшкі ў новай кнізе «Рамантычная аповесць». Новая кніга Колю Геаргіева «Магчымыя і немагчымыя прызнанні» расказвае пра ўдзел балгарскай моладзі ў рэвалюцыйнай барацьбе і ў антыфашысцкім супраціўленні ў гады вайны. Прычым, з'явам і падзеям недалёкага мінулага выносіцца прынцыповая сучасная ацэнка.

Такі прынцыпова сучасны падыход да з'яў мінулага характэрны для многіх навінак сучаснай балгарскай прозы, тэматычна не звязаных з нашай сучаснасцю непасрэдна. Тут варта перш за ўсё адзначыць апошнія раманы таленавітага балгарскага пісьменніка Эміліяна Станева «Легенда пра Сібіна, прэслаўскага князя» і «Антыхрыст». У звароце да падзей сярэднявечча мы адчуваем неспакойнае біццё ўсхваляванага сэрца сучасніка. Суровы прысуд мінуламу выносіць вядомы і беларускаму чытачу празаік Івайла Пятроў у выдатнай кнізе «Перад тым, як нарадзіцца». Сілай гумару і сатыры Івайла Пятроў рашуча адмаўляе ўсё старое ў сяле, усё дзікае і антыгуманістычнае, палемізуючы са спробамі ідэалізацыі сельскага патрыярхальнага побыту і нораваў.

Прыкметна ўзрос за апошнія гады і мастацкі ўзровень балгарскай прозы, больш разнастайнымі сталі і яе жанры. Многа гаварылася на сімпозіуме аб праблемах, узнятых у кнізе Багаміла Райнава «Чорны раман». У гэтым белетрызаваным крытычным даследаванні-эсэ аналізуюцца прычыны папулярнасці так званага «паліцэйскага рамана» на Захадзе. Пісьменнік паказвае, як у залежнасці ад попыту чытачоў трансфармуецца і «тэхналогія» стварэння такіх раманаў-дэтэктываў, пазбаўленых гуманістычных тэндэнцый, зробленых так, каб выклікаць у чытачоў пачуццё няўпэўненасці, разгубленасці, жаху перад нечаканасцямі імклівага жыцця. Багаміл Райнаў пераканаўча даказвае залежнасць аўтараў «чорнай серыі» ад тых, хто плаціць, каму выгадныя тыя настроі і пачуцці, што ўзнікаюць пасля прачытання гэтых «твораў». Як бы ні імкнуліся аўтары «чорнай серыі» схаваць сваю тэндэнцыйнасць, іх «паліцэйскія раманы» застаюцца люстрам сучаснай буржуазнай рэчаіснасці.

Аднак жанр сам па сабе існуе і адыгрывае сваю станоўчую функцыю, калі ён служыць ідэям гуманізму, ідэям міру і прагрэсу, калі асноўная яго мэта—выхаванне моладзі. У кнізе Б. Райнава гаворыцца і пра поспехі гэтага жанру ў сучасных літаратурах сацыялістычных краін, у прыватнасці, у Балгарыі. Літаратурна-крытычнае даследаванне Б. Райнава грунтуецца на плённым вопыце пісьменніка: у Савецкім Саюзе добра вядомы яго прыгодніцкія раманы «Пан Ніхто» і «Няма нічога лепшага, чым дрэннае надвор'е». Удзельнікі сімпозіума мелі магчымасць пазнаёміцца з яго новымі раманамі-дэтэктывамі «Вялікі сум» і «Бразільская мелодыя». Як і новая аповесць Паўла Вежына-

Стэфан ПАПТОНЕЎ

## СУБОТА. ДВАЦЦАЦЬ ПЕРШАГА ЧЭРВЕНЯ

*УРЫВАК З КНІГІ «БЕЛОРУСИЯ — БЯЛА БАЛАДА»*

Калі я ўпершыню сустрэўся з беларускай сталіцай?

Гэта адбылося далёка ад Беларусі, у тыя гады, калі мы, басаногія хлопчыкі, чыталі пры святле газоўкі паведамленні з Усходняга фронту. Тады мы пачулі назву беларускай сталіцы, як і імёны Брэста і Баранавіч, Магілёва і Бабруйска, Гомеля і Віцебска — бясспрэчна, ваенныя камюніке давалі нам самыя трывалыя веды па геаграфіі. З ваенных паведамленняў пачулі мы ўпершыню і пра групоўку армій «Цэнтр», якой трэба было самым кароткім шляхам прайсці ад фашысцкай Германіі да Масквы і захапіць савецкую сталіцу...

З Беларуссю я сустракаўся і на палях Дабруджы. Я ведаю, як радуюцца мае прыяцелі—старшыні гаспадарак і партыйныя сакратары, калі прыбывае новы трактар «Беларусь» альбо які-небудзь з сямейства тых вялікіх грузавікоў, якія не баяцца ніякіх сумётаў. «Дайце мне «МАЗ»—гаварыў Сава, шафёр з вёскі Даліна,—і я магу ехаць на Паўночны полюс».

Але толькі калі я сам прыехаў на беларускую зямлю, калі ўдыхнуў паветра гэтай краіны, калі пакаштаваў яе хлеба, адчуў, што давялося зрабіць беларускаму народу ўчора і што ён яшчэ зробіць заўтра. Менавіта адчуў, таму што, мне здаецца, зразумець той ці іншы народ—гэта самае галоўнае ў знаёмстве з ім. Можна і не вывучаць тоўстыя тамы акадэмічных выданняў пра яго гісторыю і фальклор, калі адчуеш сваім сэрцам, які ён...

Субота. 21 чэрвеня. Самая кароткая ноч...

Не ведаю, ці бывала яшчэ такое супадзенне дат. Не разгортваў старыя календары, каб убачыць, калі яшчэ 22 чэрвеня выпадала зноў на нядзелю...

Да заўтра было яшчэ цэлых дваццаць і чатыры гадзіны, за гэты час я мог прайсці з аднаго ў другі канец беларускай сталіцы і паспрабаваць уявіць, што было. І што магло быць. Таму што ўспаміны ёсць успаміны, і калі трэба вярнуцца да іх, мы заўсёды свядома ці несвядома робім гэта, таму што думаем пра заўтрашні дзень.

Гавораць, што той дваццаць першы дзень чэрвеня быў цёплы—пачалося лета. І сёння, пэўна, будзе цёпла, хаця зараз, у раннія гадзіны, дзьме востры ветрык і пад крыштальнае неба наўрад ці адважыцца хто выйсці вось так, у адной кашулі. Лета, здаецца, позніцца. І наогул, можа не будзе лета, як і ў мінулы год. Год неспакойнага сонца — гэта хутчэй суцяшэнне, але і не тлумачэнне.

А раптам перамясцілася зямная вось?

Якраз на гэту тэму мы гутарылі ўчора вечарам з дзяжурнай у гасцініцы. Дачка яе сястры замужам за балгарынам, і цётка Тамара вязала пінеткі для немаўляткі. Яна вязала і ўпарта гаварыла, што вось зямлі перамясцілася ад тых выбухаў, што адбываюцца ў падземных тунелях пустыні Невада. Гэтыя выбухі добра адчуваюць сейсмографы... Мы доўга гаварылі з цёткай Тамарай, я імкнуўся растлумачыць ёй па-навуковаму, што ад таго, што прымушае дрыжаць сейсмограф, яшчэ не можа перамясціцца зямная вось. Але яна стаяла на сваім і даводзіла, што вось зямлі ўсё-такі перамясцілася. І размова, якую мы пачалі ўчора вечарам, так і засталася няскончанай.

Цяпер, калі я выходжу з гасцініцы, Паркавая магістраль яшчэ пустая.

На другім баку вуліцы пачыналася плошча з аўтастанцыяй. Пасажыры, што стаялі перад вялікім аўтобусам, былі вясёлыя і бесклапотныя. Таму што гэтыя пасажыры ехалі ў піянерскі лагер. Маці давалі апошнія парады. Не трэба многа бегаць, каб не пацець. Нельга піць халоднай вады, бо забаліць горла. А калі ўспацееш, адразу пераапраніся ў сухое. Самыя доўгія парады тычыліся ежы. Трэба з'ядаць усё, што даюць. Начальнік лагера будзе сачыць за тым, як хто есць, і калі дома мы атрымаем пісьмо, я не прыеду да цябе ў наступную суботу на спатканне...

Я слухаў гэтыя матчыны настаўленні дзецям, што адпраўляліся ў лясы пад Мінскам, дзе былі піянерскія лагеры, і думаў пра дзяцей, што згубілі сваіх бацькоў на дарогах вайны. Іх маці і бацькі не прыязджалі наведаць іх ажно да канца вайны, альбо наогул ніколі не прыйшлі і не прыйдуць на спатканне... Я не мог не падумаць пра гэтых дзяцей, бо сёння была субота, дваццаць першага чэрвеня, і адкуль толькі такое супадзенне дат і дзён... Мой сябра В. расказваў мне, напрыклад, што тады, дваццаць першага чэрвеня, ён быў у піянерскім лагеры. І што ўжо на пяты дзень вайны гэты лагер апынуўся на акупіраванай тэрыторыі. І што разам з выхавацелькай яны прабіраліся праз лясы і непраходныя балоты, пакуль не апынуліся за лініяй фронту. І не заўсёды была магчымасць пад'есці, і не заўсёды можна было пераапрануцца ў сухое. І што бацькі многіх наогул не прыйшлі на спатканне—і пасля вайны.

Было ўжо каля дзесяці, калі я наблізіўся да Ленінскага праспекта, да таго перакрыжавання, дзе знаходзіцца мінскі ГУМ. Потым я пайшоў да кансерваторыі—пэўна, для яе няма дзён адпачынку, таму што з адчыненых вокнаў даносіліся гукі піяніна, габоя, віяланчэлі... Мне здаецца, што я ўбачыў усё, што

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

## ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Васіль ХОМЧАНКА



## Капейка

КАЖУЦЬ, што нейкі скнара за капейку павесіўся. Не ведаю, ці было такое, але што праз капейку можна трапіць у складанае становішча, бывае. Нешта падобнае адбылося і са мною.

Я не лічу сябе скнарам. Капейку ж сваю, мазалём і потам заробленую, шаную. Перад ёй і шапку здыму, не пагрэбую, пакланюся, з зямлі падніму, калі дзе ўбачу. Бо капейка да капейкі, глядзіш — і рубель. А рубель — гэта ўжо грошы...

Нядаўна ўвечары прыйшоў я ў гастраном, проста так прыйшоў. Стаю, разглядваю розную там гастраномію ў бутэльках. І тут штурхаюць мяне двое. Адзін знаёмы — Сеня, другі — незнаёмы. Па рублёўцы дастаюць, трасуць перад маім носам: шукаюць трэцяга. Чалавек я кампанейскі, кладу свой рубель. Бяром паўлітроўку, заходзім у двор, каб за пустымі скрынямі ўмясціцца. Ды праганяюць дружыннікі.

Што ж, ідзём да Сені. Ён якраз жыве ў гэтым доме, на другім паверсе, над самым гастраномам. Паўлітру выпіваем. Мала. Купляем яшчэ дзве — мала. Вытрэсваем кішэні, наскрабаем на бутэльку яблычнага.

Іду ў магазін я. Купляю бутэльку, бяру рэшту тры капейкі па капейцы. Пакуль хадзіў, сябрукі заснулі, улегліся на канапе, абняліся і спяць.

Я стаўлю бутэльку на стол, кладу туды ж дзве капейкі рэшты — усё дзялю сумленна. Дастаю кашалёк, каб схаваць сваю капейку, а яна з пальцаў — і коціцца сабе па падлозе. Нагінаюся, каб схапіць, а яна — пад канапу...

Не, думаю, не пакіну тут сваю кроўную капейку, мазалём заробленую. Так-сяк адсоўваю канапу разам з сябрукамі. Ляжыць мая капеечка, блішчыць. Толькі збіраюся ўзяць яе, а Сеня ў сне нагой як таўхане, ды па капейцы! Яна і правалілася ў шчыліну паміж масніцамі.

«Ах ты, нягодніца,— гавару я. — Ад свайго законнага гаспадара ўцякаеш. Не выйдзе, падлогу ўзламаю, дастану».

Знаходжу тапор, узломваю дошку. Ляжыць капеечка, ляжыць і нібы крычыць: «Тут я, тут!» Прасоўваю руку, датыкаюся да яе, а яна слізгае далей пад нейкую жалезіну. Узрываю другую масніцу. Там нейкія балты, прэнты, і ўсё гэта замуравана бетонам.

Стукаю нагой па жалезе — не варушыцца. Тапаром — не бярэ.

На двары знаходжу лом. Прыношу. Сябрукі спяць.

Стаю з ломам. Намер рашучы — дастану капейку, не пакіну. Яна мая, кроўная. Плюю на далоні, размахваюся ломам:

— Гэх-х! Гэх-х!

Замест балтоў — дзірка ў падлозе. Нагінаюся, гляджу ў гэту дзірку, капейку сваю хачу ўбачыць і раптам бачу гастраном. Віннагарэлачны аддзел. На паліцы бухнулася бронзавая люстра, а з разбітых бутэлек цякуць каньяк і гарэлка. Шум, гам, крык. Пакупнікі і прадаўцы галовы задралі, на дзірку глядзяць, а я на іх цікую ў дзірку. Спіртны дух так шыбае знізу, што аж мае сябрукі прачынаюцца.

Не паспяваюць ачомацца, як прыбягаюць: дырэктар магазіна, прадавец і міліцыянер.

— Зразумела,—кажа міліцыянер. — Тапор — раз, лом — два, пралом у падлозе — тры. Рыхтавалі крадзеж у магазіне.

— Люстру сарвалі са столі, — кажа дырэктар. — Яна разбіла пятнаццаць бутэлек.

— Дваццаць, — папраўляе прадаўшчыца. — Ды яшчэ мяне па спіне люстра ўдарыла.

— Трыццаць бутэлек каньяку разбіта,— падводзіць канчатковы вынік дырэктар.

Мяне вядуць у міліцыю, сябрукоў—таксама.

Сябрукоў назаўтра адпускаюць, а на мяне следства заводзяць. Судзіць будуць за замах на крадзеж дзяржаўнай маёмасці. Магазін мне іск прад'явіў на пяцьсот чатыры рублі і адну капейку.

Вось што нарабіла адна капейка. А я ж яе так шанаваў, не паганарыўся, як іншыя, на калені перад ёю стаць!

## У КАБІНЕЦЕ ПІСЬМЕННІКА



— А цяпер я пішу для той шуфлядкі ў шостым радзе!

Мал. Ежы ПЫРКО, (Польшча).

Алесь ЛІХАЧ

## МІМАХОДЗЬ

Калі дзверы ў кабінет былі адчынены асабліва шырока, усе ведалі, што гаспадара няма.

□ Даўно не голены падхалім падышоў да люстра і, не пазнаўшы сябе, лісліва ўсміхнуўся.

□ Некаторыя людзі толькі тады прыслухоўваюцца ўважліва да вашых слоў, калі вы іх шэпчаце каму-небудзь на вуха.

□ Лічыў сябе настолькі вялікім крытыкам, што нават з жонкай гаварыў ад імя грамадскасці.

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

Некаторыя лічаць сваёй столлю дах над галавой.

□ Можна заплюшчыць вочы і на тое, чаго не бачыш.

□ Крывізну прасторы ўбачыў у люстэрка смеху.

□ Што ні кажы, а «дробны жулік» большая абраза, чым проста «жулік».

□ — Блага нам, шэрым, — паспачуваў зайцу воўк.

□ Не, ён не стаіць на месцы: ён блытаецца пад нагамі.

В. КАВАЛЬ



## ЯК ВЯРНУЦЬ КАХАННЕ

МУЖОЎ, скажу я вам, трэба моцна ў руках трымаць, бо муж, які адбіўся ад рук, ужо не муж, а абы-што...

Я, напрыклад, некалі так натрэніравала свайго, што ён быў у мяне, як шоўкавы. А кахаў як! Загадай я яму, напрыклад, дзеля мяне ў агонь скокнуць, скокнуў бы. Так ён мяне кахаў.

Бывала, паспрачаемся, я за свае рэчы—і гайда з хаты.

— Бывай,—кажу,—іду ад цябе назаўсёды!

А мой Трахім галаву панурыць і толькі сапе.

«Маўчы,— думаю. — Маўчы. Я цябе ведаю. Прыбяжыш! Дзе ты дзенешся?»

Выйду за вароты, прайду трошкі, не спяшаючыся, пастаю, каб лягчэй было Трахіму даганяць мяне. А тым часам і ён бяжыць, як міленькі! Задыханы.

— Ты гэта што? Сапраўды?—пытаецца.

— Сапраўды.

— Наталка, чуеш, Наталка! Адумайся!—просіць.

— І думаць няма чаго! Ты мяне не любіш!—адказваю. Яшчэ і слязу пушчу. Хай больш папросіць. А ён—якіх толькі слоў мне не гаворыць: і «рыбачка» я ў яго, і «кветачка», і «сонейка»... І так мне ад гэтага робіцца хораша!

— Вярніся!—упрошвае мяне Трахім.

— Не, не вярнуся, — цвёрда стаю я на сваім...

— Я цябе шкадаваць буду, на руках насіць буду,—абяцае.—Вярніся толькі.

І вось-вось заплача.

— Ну што ж,—адказваю.—Калі так, то даводзь на справе: нясі мяне дадому!

І што вы думаеце? Бярэ і нясе. А я пудоў так шэсць важу. Аж сагнецца, небарака, крэкча. А галоўнае, упусціць баіцца.

Вось так ён мяне разоў з дзесяць дадому прыносіў. Як засумую па гэтых «кветачках» ды «сонейку», так і давай яго кідаць. А прычына заўсягды знойдзецца. Ці доўга паспрачацца? Паспрачаліся на тым тыдні, я за свой клунак—і да дзвярэй.

— Бывай,—кажу.—Іду назаўсёды.

— Ідзі, — спакойна адказвае Трахім.

Я ад здзіўлення ледзь клунак з рук не выпусціла. Што за штука? Такога яшчэ не было.

— Дык ты мяне гоніш?—пытаю.—Жонку сваю з дому выганяеш? Ну, добра ж, ты мяне яшчэ папросіш!

І грукнула дзвярыма.

На гэты раз я вырашыла яму добра адпомсціць

Адышлася з кіламетр ад хаты, каб яму далей мяне назад несці было. І спынілася. Стаю, выглядаю. Будзе ведаць, як жонку выганяць!

Ды вось ліха, нешта доўга не відаць майго Трахіма. Можа затрымаўся дзе. Паўгадзіны прайшло... Пачалі ногі мёрзнуць: зіма. А Трахіма ўсё няма...

Думаю, можа далёка зайшла, не знойдзе яшчэ. Вярнулася бліжэй да хаты—не ідзе. Да самага двара падышла, стала супраць акон. Калі, напэўна, убачыў мяне—выйшаў.

— Вярніся,—просіць.

І неяк так лена просіць, не так, як заўсёды.

Я заўпарцілася:

— Не, не вярнуся.—кажу.

Пачухаў Трахім патыліцу.

— Ну, то правільна зробіш,—гаворыць.—І не вяртайся.

І пасунуўся назад у хату.

Я—за ім.

— Значыцца, так ты мяне кахаеш?—накінулася на яго.—Жонка з дому невядома куды пайшла, а табе і гора мала?!

— Мала!—адказвае Трахім.—Стаміўся я, Наталка, цябе на руках насіць. Як ты сабе хочаш, а мне ўжо абрыдла...

Слухаю я—і вушам сваім не веру. Не мой муж! Як быццам падмянілі. А можа другую пакахаў? Давялося ўласнымі нагамі падавацца да хаты.

— Галава ў цябе,—пытаюся,—не баліць?

— Што там галава!—адказвае.—У мяне душа баліць!

Наліла яму чарку.

— На,—кажу,—выпі. Ад душы памагае.

А ён (вы бачылі?) адсунуў чарку.

— Дзякую,—кажа.—Не хачу.

І што гэта за дзіва такое? Давай я ля яго і сяк і так прыпадаць. Якімі толькі словамі яго не называла: і «галубочкам» і «сакалікам».

Гляджу, стаў пакрысе адыходзіць.

І ў мяне як быццам камень з душы зваліўся. Бо калі б і сапраўды разлюбіў? Што тады? Як вярнуць каханне?

З таго часу я больш не кідала свайго Трахіма.

З украінскай мовы пераклаў А. ПАЎЛЮКАВЕЦ.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 07933

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.